# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



№ 8

ЛІПЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 8 (14) | Ліпень | 1930 г.






## За пабудову сацыялістычнай гаспадаркі



Завод сельска-гаспадарчых машын у Гомелі.

## Нашы посьпехі ў галіне індустрыялізацыі— падстава рэканструкцыі сельскай гаспадаркі

Прайшло 10 год з тае пары, калі БССР была вызвалена ад белапольскай акупацыі. За гэты час, дзякуючы цьвёрдаму і няўхільнаму правядзеньню Камуністычнай Партыяй Бальшавікоў Беларусіі курсу на індустрыялізацыю нашае краіны, мы маем шэраг буйных дасягненьняў на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва. Аднавілі старую прамысловасьць, пабудавалі цэлы шэраг новых магутных фабрык і заводаў, якія дапамагаюць рэканструіраваць усю народную гаспадарку.

Наша краіна мае вялікія посьпехі ў справе разьвіцьця энэргетычнай базы. Досыць прывесьці лічбы дасягненьняў па лініі электрыфікацыі, каб убачыць магутны рост і далейшае пашырэньне нашага будаўніцтва. Так, выпрацоўка электраэнэргіі ўзрасла з 37.000 кілёват у 1927-28 г. да 85.000 кілёват у 1929-30 г. Агульны ўзрост за гэты

час складае 170 проц. Магутнасьць усіх электрастанцый павялічваецца з 12.000 кілёват у 1928 г. да 34.000 кілёват у 1930 г. прырост тут маем 195 проц.

Значна павялічваюцца капіталаўкладаньні ў прамысловасьць. Так, калі ў 1926-27 г. было ўкладзена ў прамысловасьць каля 11 млн. руб., у 1927-28—16 млн. руб., у 1928-29 г.—25 млн. руб., дык у 1929-30 г. ужо 52 млн. руб.

Гэты рост прамысловасьці БССР даў магчымасьць уцягнуць у вытворчасьць новыя пралетарскія і поўпралетарскія пласты насельніцтва, павялічваючы тым самым кіруючую ролю прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Такія вялікія посьпехі па шляху будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці ў БССР зьяўляюцца вынікам зусім правільнай палітыкі партыі, актыўнага ўдзелу пралетарыяту і шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў сацыялістычнай перабудове народнае гаспадаркі.

### За сацыялістычную сельскую гаспадарку

Тыя посьпехі, якія мы маем у справе індустрыялізацыі БССР далі магчымасьць больш шпарка калектывізаваць нашу вёску. Апошні год зьяўляецца ў сапраўднасьці годам вялікага пераламу і вялікіх дасягненьняў у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Шпаркі тэмп індустрыялізацыі краіны, узмацненьне вытворчай змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства і дасягнутыя посьпехі ў гаспадарчым разьвіцьці саўгасаў і калгасаў пераканалі беднату і серадняка ў пераважнасьці буйнай калектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай. Дзякуючы гэтаму мы мелі і маем рух бядняцка-серадняцкіх мас вёскі за калектывізацыю.

Конкрэтныя дасягненьні ў справе калектывізацыі характарызуюцца наступнымі лічбамі: удзельная вага плошчы калгасаў за апошні год з 337 тысяч *га* узрасла да 1.200 *га*, плошча пад саўгасамі за гэты-ж час павялічылася з 1,2 проц. да 1,6 проц., а разам увесь абагулены сэктар (саўгасы і калгасы) узрос за апошні год з 2,4 проц. да 16 проц. Гэтыя посьпехі на фронце калектывізацыі сельскае гаспадаркі зьяўляюцца асабліва важнымі, таму што ў БССР мы маем значную распыленасьць сельскае гаспадаркі з нізкай таварнасьцю і вытварам. Акрамя таго ўся мінулая палітыка зямельных органаў была накіравана на арганізацыю хутарскіх, кулацкіх гаспадарак.

Канкрэтныя вынікі калектывізацыі сельскае гаспадаркі БССР сьведчаць аб тым, што бядняцка-серадняцкія масы сялянства пад кіраўніцтвам рабочае клясы, на чале з Камуністычнай Партыяй рашуча перамагаюць рэшткі „прышчэпаўшчыны". Гэтым самым ушчэнт апракідваюцца ўсе дробна-буржуазныя тэорыі і нэа-народнікаў і нацыяналдэмакратаў, якія пад прыкрыцьцем гістарычна склаўшыхся ўмоў разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі, адстаівалі кулацка-хутарскую палітыку, накіроўваючы сваю дзейнасьць на разьвіцьцё сельскае гаспадаркі па капіталістычнаму шляху.

Жыцьцё паказала, што самі бядняцка-серадняцкія масы вёскі пад кіраўніцтвам партыі апракінулі ўсе гэтыя „навуковыя" сьцьверджаньні і сталі на правільны шлях ператварэньня сельскае гаспадаркі на базе калектывізацыі, дасягнуўшы на гэтым шляху значных посьпехаў.

Вясеньняя сяўба ў гэтым годзе прайшла пры поўным выкананьні вызначаных плянаў,

Маючыяся посьпехі ў справе індустрыялізацыі БССР і калектывізацыі сталі магчымымі толькі дзякуючы правільнай і пасьлядоўна праводзімай, з боку партыі, лініі, накіраванай на ўзмацненьне саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства на павялічэньне актыўнасьці рабочае клясы і яе кіруючай ролі.

Гэтыя посьпехі дапамаглі разьбіць рэшткі контр-рэвалюцыйнага трацкізму і нанесьці сьмяротны ўдар праваму апартунізму і прымірэнчым адносінам да яго, які (правы апартунізм) прабаваў сьцягнуць нашу партыю з правільных Ленінскіх пазіцый і перашкодзіць пасьпяховаму сацыялістычнаму будаўніцтву.

Тыя посьпехі, якіх дасягнула рабочая кляса ў справе разьвіцьця і рэконструкцыі ўсёй народнае гаспадаркі далі магчымасьць перайці ад палітыкі абмежаваньня эксплёататарскіх імкненьняў кулацтва да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Калектывізацыя сельскае гаспадаркі дае магчымасьць зьнішчыць капіталістычныя элемэнты ў вёсцы, якія перашкаджаюць пасьпяховасьці рэконструкцыі сельскае гаспадаркі на сацыялістычных падставах.

Пасьпяховае выкананьне, а па некаторых галінах і перавыкананьне ў першыя 2 гады пяцігодкі, сьведчыць аб тым, што лёзунг выкінуты партыяй і рабочай клясай—„дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканомічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны“ стаў на зусім рэальную глебу. Возьмем, напрыклад, сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва ў Савецкім Саюзе. Так, калі да рэвалюцыі ў рэкордным 1913 г. у Расіі было выпушчана сельскагаспадарчых машын на 70 млн. руб., дык у гэтым годзе мы далі ўжо гэтых машын на 375 млн. руб.

Як мы ў далейшым разьвіваем нашу работу ў гэтым напрамку? У 1930 г. мы за адзін год зробім тое, што Амэрыка зрабіла з 5 год: у 1931-32 году ў СССР будзе вырабляцца ўжо на 11 проц. машын больш, чым Амэрыка вырабляла ў 1928 годзе; а ў 32-33 годзе Савецкі Саюз, бясспрэчна, замацуе за сабой становішча першай у сьвеце краіны па вытворчасьці сельскагаспадарчых машын і прылад. Амэрыка зрабіла ў мінулым годзе 180.000 трактароў, наша праграма разьлічана на тое, каб у бліжэйшы год вырабіць 190.000 трактароў.

## Мы расьцем—капіталізм занепадае

Усе гэтыя посьпехі, якія мае БССР, а разам увесь Савецкі Саюз робяцца яшчэ больш грандыёзнымі на фоне агульнага заняпаду капіталістычнай гаспадаркі.

У Савецкім Саюзе ідзе пасьпяховае будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі, у той час, калі ўвесь капіталістычны сьвет знаходзіцца ў цісках моцнага эканамічнага крызісу.

Цікава адзначыць тое, што калі ў мінулы пасьляваенны час, крызіс ахопліваў толькі некаторыя Эўрапэйскія краіны, дык крызіс гэтага году, які зьяўляецца працягам агульнага пасьляваеннага крызісу, ахапіў і тую краіну, якая нажылася ў час вайны—гэта Амэрыку.

Той крызіс, які перажывае цяпер капіталістычная гаспадарка зьяўляецца сур'ёзным патрасеньнем ня толькі эканамічнага, але і палітычнага парадку. Крызыс ахапіў усе без выключэньня капіталістычныя краіны. Адбываецца вялізарны ўзрост беспрацоў'я, зачыняюцца фабрыкі і заводы, разбураецца сельская гаспадарка.

Калі мы возьмем бліжэйшы да нас капіталістычны край Польшчу, якая зьяўляецца нашым непасрэдным суседам, дык яна больш усіх паражана сучасным крызісам. Становішча польскай гаспадаркі знаходзіцца ў поўным заняпадзе. Для таго, каб даць малюнак становішча гаспадаркі ў Польшчы, дастаткова прывесьці словы з артыкулу, надрукаванага ў буржуазнай польскай газэце. Вось што піша гэта газэта аб становішчы польскага капіталізму:

„...Больш 300.000 чалавек напружана шукаюць хлеба і работы. Другія 300.000 чал. працуюць толькі некалькі дзён у тыдзень. Буйныя прамысловыя цэнтры ўяўляюць сабою могільнік. Лодзь мёртвая, Беласток памірае, Беласток задыхаецца. Жалезная прамысловасьць у Польшчы, асабліва ў Сілезіі, прадстаўляе нявшчасны від, з вуглем кепска, вельмі кепска. Унутраны і замежны рынак усё больш звужаецца...“

і далей:

„У Польшчы ўсе азлоблены, расчараваны, поўны сумненьня. Некаторыя проста палаюць помстай, ня могуць дачакацца моманту рэваншу. Пад паверхняй нудзяць агні, жывем на вулькане, тым больш небясьпечным, што ня відаць палепшаньня ні ў палітычных, ні ў гаспадарчых адносінах...“

Крызіс ахапіў ня толькі гаспадарку Эўропы і Амэрыкі, але і інш. краіны. Такое становішча капіталістычнай гаспадаркі выклікае магутны рэвалюцыйны ўздым рабочае клясы. Увесь час значна павялічваецца рух забастоўшчыкаў, адзначаюцца амаль ва ўсіх капіталістычных краінах адчыненыя выступленьні рабочае клясы супроць капіталістых за ўтварэньне Савецкае ўлады.

Асабліва магутны рэвалюцыйны ўздым мы наглядаем у такіх паўкалёніальных краінах як Кітай і Індыя. Кітай у апошнія гады ахоплен магутным рэвалюцыйным рухам. Досыць сказаць, што з 773 паўднёвых паветаў Кітая, 162 паветы ахоплены паўстаньнем, а ў руках 13 карпусоў кітайскай Чырвонай арміі знаходзяцца 127 паветаў, у якіх утворана Савецкая ўлада.

Усяго гэтага ня могуць ня бачыць нашыя ворагі. Вось чаму ў апошні год, як ніколі, буржуазія пачала актыўна рыхтавацца да вайны з СССР, бо яна ведае, што той эканамічны крызіс, які перажываюць капіталістычныя краіны, пры магутным уздыме народнае гаспадаркі Савецкага Саюзу, можа прывесьці да яшчэ больш пашыранага рэвалюцыйнага руху, які можа выбухнуць у рэвалюцыю. Таму так моцна імкнецца капіталістычны сьвет парушыць спакой Савецкага Саюзу, перашкодзіць посьпяховаму сацыялістычнаму будаўніцтву і тым самым нанесьці вялікі ўдар рэвалюцыйнаму руху пралетарыяту ўсяго сьвету. Мы таксама гэту палітыку буржуазіі павінны добра ведаць і яшчэ больш напружана працаваць па разьвіцьцю нашае народнае гаспадаркі і разам з тым быць гатовымі кожную хвіліну даць адпор усім тым, хто захоча перашкодзіць нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву.

### Ворагі аб нашых посьпехах

Цікава тое, што калі першыя гады існаваньня Савецкай улады буржуазія ня верыла ў посьпяховасьць нашага будаўніцтва, дык у сучасны момант мы маем зусім іншае. Ніякай хлусьнёй і ніякімі паклёпамі не ўдалося ім зацямніць усіх тых вялікіх посьпехаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва, якія мае краіна дыктатуры пралетары-

яту. Для характарыстыкі таго, як ацэньвае нашы посьпехі буржуазія капіталістычных краін, можна прывесьці некалькі вытрымак з іх газэт. Так адна буржуазная газэта Нямеччыны піша, што ў Савецкім саюзе:

„... Спускаюцца новыя караблі, будуюцца новыя вялікія заводы для выработу сталі і жалеза. Выраб сельскагаспадарчых машын складаў у даваенны час суму каля 70 млн. руб. у год, у гэтым годзе складае лічбу ў 5 разоў большую. Вытворчасьць у гэтай галіне настолькі фарсіруецца, што трэба лічыцца з бліжэйшай магчымасьцю вывазу савецкіх сельскагаспадарчых машын за межы.

Зусім нечаканыя посьпехі электрапрамысловасьці. Днепрабуд— гэта гіганцкая сілавая станцыя, аб якой будавалі пляны ўжо шмат гадоў таму назад—і пабудова якой увесь час адхілялася з-за вялікіх затрат, зараз падходзіць да свайго плянамернага заваршэньня.

Дняпро становіцца суднаходным да Чорнага мора.

Будуюцца новыя гарады. Адзін праэкт правасходзіць другі. Туркестан зьвязаны з Сібірам. За гэтым сьледуюць новыя лініі на далёкі ўсход, у Закаўказьзе і Сярэднюю Азію...“

І далей гэта капіталістычная газэта піша, што калі

„... Амэрыка была краінай неабмежаваных магчымасьцяй, дык Савецкі Саюз зьяўляецца краінай незразумелых магчымасьцяй.

Усе гэтыя дасягненьні заслугоўваюць прызнаньня, нават з нашага пункту погляду...“

Адзін нямецкі прафэсар на сходзе Бэрлінскага саюзу інжынэраў у сваім дакладзе заявіў наступнае:

„... У СССР пануе выключна плянавая гаспадарка. Індустрыялізацыя СССР у тэхнічных адносінах так прапрацавана, што, калі пяцігодка будзе выканана, то СССР праз 10 год будзе ўладаць лепшымі і найбольш добра абсталяванымі заводамі і фабрыкамі ва ўсім сьвеце.

Плян калектывізацыі сельскае гаспадаркі зьяўляецца геніяльным, і калі Савецкаму Саюзу ўдасца выканаць задачу пяцікратнага павялічэньня прадукцыйнасьці сельскае гаспадаркі, дык СССР будзе самай буйнай краінай у сьвеце па экспарту. Я лічу, што маю права сказаць, што посьпехі СССР перавышаюць усё, што я лічу магчымым. Калі спакой СССР ня будзе парушаны і калі ў яго хопіць часу стварыць патрэбныя для сябе грашовыя запасы для выкананьня сваіх вялічэзных плянаў, то сапраўдны пераможцаю ў сусьветнай вайне будзе не Амэрыка, а СССР...“

Вось што пішуць у сучасны момант буржуазныя эканамістыя і палітыкі.

### Нашы асноўныя задачы

Перад пралетарыятам і бядняцка-серадняцкімі масамі вёскі стаяць і зараз вялікія задачы як у галіне далейшага посьпяховага разгортваньня сацыялістычнай прамысловасьці, так і ў галіне рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

У нас у БССР у галіне сельскае гаспадаркі цэнтральнае месца ў далейшай працы павінна адводзіцца справе разьвіцьця жывёлагадоўлі.

13 Зьезд Камуністычнае Партыі Бальшавікой Беларусі паставіў гэту задачу, як першачарговую перад нашымі саўгасамі, калгасамі і бядняцка-серадняцкім насельніцтвам. У сваёй пастанове 13 Зьезд КП(б)Б запісаў наступнае:

> „...Зьезд даручае ўсім партыйным і савецкім арганізацыям прыняць самыя рашучыя меры да ажыцьцяўленьня спэцыяльных плянаў разьвіцьця жывёлагадоўлі, прынятых ЦК КП(б)Б і Саўнаркомам БССР.
>
> Усямерна праводзячы працу па пашырэньню жывёлы ў паасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарках, стымулюючы разьвіцьце ў іх гэтае справы, асноўную ўвагу трэба сконцэнтраваць на пашырэньне стада жывёлы ў саўгасах і калгасах, асабліва ў спэцыялізаваных сьвінаводных і малочных гаспадарках...“

Для вырашэньня мясной праблемы, у далейшым асабліва павінна быць зьвернута ўвага на разьвіцьцё сьвінагадоўлі, як найбольш скарасьпелай жывёлы. Таму Зьезд прапанаваў усім арганізацыям пашырыць сьвінаводныя саўгасы, калгасы і павялічыць у некалькі разоў стадасьвіна матак у гэтых гаспадарках.

У галіне разьвіцьця буйнай рагатай жывёлы неабходна дабіцца максымальнага павялічэньня малочнага стада для забесьпячэньня малочнай прадукцыяй пралетарскіх цэнтраў. У гэтах адносінах асаблівая ўвага павінна быць накіравана на арганізацыю малочных саўгасаў і калгасаў.

Для забесьпячэньня разьвіцьця жывёлагадоўлі патрэбна кармовая база. У мэтах вырашэньня кармовага пытаньня, асаблівае значэньне ва ўмовах БССР набывае прасьцейшае палепшаньне сенажацяй і выганаў з мэтаю павялічэньня і палепшаньня травастою. Таксама неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу пасеву спэцыяльных культур і збору зялёнай масы для сіласаваньня з тым, каб ужо ў гэтым годзе сабраць сілосу ня менш 1 млн. тон, а ў наступным годзе мець на кожную галаву буйнай рагатай жывёлы ня менш 2 тон сіласнай масы.

Побач з разгортваньнем жывёлагадоўлі, чарговай задачай у галіне сельскае гаспадаркі зьяўляецца задача пашырэньня засеву пад тэхнічнымі культурамі, як лёну і канаплі.

На фронце ўзьняцьця ўраджайнасьці нашай с.-г. нам трэба зрабіць надзвычайна многа. Для таго, каб дабіцца вызначаных урадам лічбаў узьняцьця ўраджайнасьці, павінна быць праведзена вялікая праца па скарыстаньню торпу на ўгнаеньне, вапны, лубінізацыі і на правядзеньне ўсіх агро-мерапрыемстваў, вызначаных партыяй і урадам.

13 зьезд КП(б)Б пастанавіў, каб калектывізацыя сельскае гаспадаркі БССР была ў асноўным закончана да канца пяцігодкі. Таму гэта задача павінна ўвесь час стаяць у асяродку ўвагі ўсіх працоўных мас.

Пакласьціся на самацёк калгаснага руху ні ў якім разе ня можна. Трэба і надалей весьці шырокую растлумачальную кампанію, захоўваючы прынцып добраахвотнасьці пры калектывізацыі, на далейшае ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

Спробам кулацтва супроцьставіць калгаснаму руху не ўвайшоўшых у калгасы беднякоў і серадпякоў—трэба супроцьставіць адзіны фронт калгасьнікаў і некалгасьнікаў—бедпаты і серадпякоў.

У справе далейшых посьпехаў калектывізацыі немалаважнае значэньне будзе мець тое, наколькі пасьпяхова мы справімся з уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніяй. 13 зьезд КП(б)Б таксама падкрэсьліў неабходнасьць пасьпяховага правядзеньня гэтых кампаній і ў сваёй пастанове запісаў:

> „...Аднэй з важнейшых чарговых задач усіх партыйных, савецкіх і каапэрацыйных арганізацый зьяўляецца задача сваячасовае падрыхтоўкі і правядзеньня ўборачнай кампаніі (асабліва ў калгасах) і асеньняй сяўбы, ад іх залежыць ня толькі гаспадарчае замацаваньне існуючых калгасаў, але і новы штуршок калгаснага руху...“

У сельскай гаспадарцы асаблівае значэньне мае ўзьняцьце вытворчасьці працы. Ніхто іншы, як *Ленін* зварочваў асаблівую ўвагу на неабходнасьць узьняцьця вытворчасьці працы як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскае гаспадаркі. Так ён пісаў: *„Вытворчасьць працы—гэта ў апошнім рахунку самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“*. І далей ён піша *„Капіталізм можа быць канчаткова пераможан тым, што сацыялізм утворыць новую больш высокую вытворчасьць працы“*.

Гэтых слоў мы не павінны забываць. Толькі пры напружанай працы ўсіх працоўных мас мы зможам выканаць задачу „дагнаць і перагнаць“, пастаўленую перад намі. Залогам таго, што гэта задача будзе выканана служыць той магутны ўздым творчай энэргіі пралетарыяту і бядняцка-серадняцкіх мас, які выразіўся ў сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве. Гэты мэтад працы—соц. спаборніцтва і ўдарніцтва, якім ахоплены ўсе рабочыя масы фабрык і заводаў, павінен быць перанесены і ў сельскую гаспадарку. Нашыя саўгасы, калгасы і індывідуальныя бядняцка-серадняцкія масы павінны ўступіць у соц. спаборніцтва па выкананьню і перавыкананьню плянавых заданьняў, вызначаных пастановамі Партыі і Савецкае ўлады.

---



# Саўгаснае і калгаснае будаўніцтва

## Саўгасы да X-годзьдзя вызваленьня БССР



Агульны выгляд саўгасу імя 10-годзьдзя БССР



Поруч з вялізарным уздымам усёй народнай гаспадаркі БССР, значна ўзмацніліся і пашырыліся ў апошнія гады саўгасы. Дзякуючы права-апартуністычнай і яўна-кулацкай палітыцы былога складу Наркамзему, саўгасы раней пражывалі паласу значнага згортваньня сваёй дзейнасьці; ад іх адразаліся цэлыя кавалкі зямлі, на якіх арганізоўваліся хутары і пасёлкі.

Зараз саўгасы, ня толькі вышлі з паласы ліквідатарскіх да іх настрояў, але пад кіраўніцтвам і пры дапамозе кампартыі—прыходзяць да X-годзьдзя вызваленьня БССР са значнымі посьпехамі і актыўным балянсам. Павялічваецца роля саўгасаў як сельскагаспадарчых сацыялістычных прадпрыемств і, з другога боку, вырастае і палітычнае значэньне іх. Саўгасы пачынаюць станавіцца важнейшым фактарам і стымулам сацыялістычнай перабудовы вёскі, узорнымі гаспадаркамі сацыялістычнага тыпу, па якіх павінна раўняцца акаляючае насельніцтва пры арганізацыі і вядзеньні калектыўнай гаспадаркі.

Якія-ж дасягненьні маюць саўгасы? Колькасьць саўгасаў за апошнія два гады павялічылася з 136 да 163 адзінак. Працэс арганізацыі новых савецкіх гаспадарак на цэлінных землях, балотных масывах і інш., працягваецца і зараз. Толькі за апошнія два месяцы ўключаны ў сыстэму Белсельтрэсту 5 новых гаспадарак. Пасеўная плошча пад саўгасамі ў гэтым годзе супроць мінулага дае ўзрост на 44 проц.,

сярэдні разьмер тэрыторыі саўгасаў, у сувязі з прырэзкамі, таксама павялічыўся.

Ураджай па галоўных сельскагаспадарчых культурах мае няўхільную тэндэнцыю к росту, але застаецца ўсё яшчэ нізкім.

Для відавочнасьці зьмяшчаем наступную табліцу ўраджаяў у саўгасах (сярэдняе па БССР).

| | | У 1927 г. | У 1930 г. |
|---|---|---|---|
| Ураджай | жыта | 9,9 цэнт. | 11 цэнт. |
| „ | пшаніцы | 5,9 „ | 12,4 „ |
| „ | ячменю | 5,9 „ | 9,8 „ |
| „ | аўса | 5,7 „ | 10,2 „ |

Вельмі значна вырасла ў саўгасах за апошнія два гады стада малочна-прадукцыйнае жывёлы і маладняку. Кароў з 4.042, якія былі ў 1927 г., стала 16.000 у 1930 г., маладняку з 2.240 стала 12.000. Сярэдні гадавы ўдой з 1.424 літраў павялічыўся да 2.045 літраў.



**Глеба-Фрэза, якая адначасова ўспахвае і дзіскуе глебу.**
(Саўгас імя 10-годзьдзя БССР).

Асноўныя капіталы саўгасаў павялічыліся з 3.700.000 да 7.400 т. р. Валавая прадукцыя саўгасаў вырасла з 8.200.000 да 13.500.000 руб.

Апошні год зьяўляецца надзвычайна характэрным у сэнсе параўнальна значнага ўзросту аб'ёму фінансаваньня капітальных укладаньняў па саўгасах, якія з 1.600.000 руб. павялічыліся да 5.000.000 руб. (сюды не ўваходзяць сродкі каля 7 мільёнаў руб., якія асыгнаваны на будаўніцтва сьвінагадоўчых саўгасаў).

У сувязі з узростам аб'ёму вытворчасьці, пашырэньнем саўгасаў і арганізацый новых, павялічылася і колькасьць рабочых, занятых у іх з 8.200 да 9.750.

Саўгасы аказалі вялікую агравытворчую дапамогу акаляючым калгасам і бядняцка-серадняцкім аднаасабовым гаспадаркам, ачышчана насеньня 22.000 тон, адрамантавана 16.000 розных сельскагаспадарчых прылад.

Арганізаваныя ў большасьці саўгасах рабочыя брыгады пад кіраўніцтвам партыйных і прафсаюзных арганізацый прынялі актыўны ўдзел у арганізацыі калектываў, папулярызацыі іх значэньня, складаньню вытворчых плянаў і г. д.

Вытворчая дзейнасьць саўгасаў характарызавалася да апошняга часу сваім надзвычайным унівэрсалізмам, што адмоўна адбівалася на якасных паказчыках вядзеньня гаспадаркі. Зараз стан саўгасаў грунтоўна мяняецца ў сувязі з спэцыялізацыяй іх па аднэй вядучай галіне гаспадаркі, па максымальнаму выросьліваньню сьвіней, па вытвару насеньня лугавых траў, караньплодаў, пераапрацоўцы бульбы.



**Раскарчоўка лесу трактарам.** (Саўгас імя 10-годзьдзя БССР).

Арганізоўваецца 12 буйных малочных фэрм на 12.000 галоў жывёлы, 5 буйных прамысловых птушка-трусіных заводы і некалькі буйных садова-гародніх саўгасаў. Выдзелена 70 сьвінаводчаскіх гаспадарак, якія спэцыялізуюцца як фабрыкі мяса. У іх у гэтым годзе павінна быць ня менш 15.000 сьвінаматак, а ў 1930-31 годзе 50.000 сьвінаматак.

Саўгасы скончылі раней усіх вясеньні сеў. Замест намечаных па пляну Белсаўгастрэсту 14.947 *га*, засеяна ўвесну 17.734 *га*. Супроць 29 году пасеўная плошча па Белсаўгастрэсту наогул павялічылася на 38 проц., а ўся плошча на 19.129 *га*, з якіх запфонду 7.530 *га*, лесфонду 2.315 *га*, адабраных ад кулацкіх гаспадарак 2.803 *га* і інш.

Падагульваючы ўсе гэтыя паказчыкі, трэба сказаць, што саўгасы, як і ўся наша народная гаспадарка, зараз перажываюць бурныя тэмпы свайго разьвіцьця і ўздыму.

Поруч з дасягненьнямі ў дзейнасьці савгасаў маецца і шмат буйных недахопаў, асабліва па лініі якасных паказчыкаў іх працы. Трэба сказаць, што пытаньнем якасьці працы ў саўгасах удзялялася мала ўвагі, на вузлавых пытаньнях працы саўгасаў (вытворчасьці працы, арганізацыі працы, максымальнаму скарыстаньню цягавай сілы і ўсіх сродкаў вытворчасьці, зьніжэньне сабекаштоўнасьці прадукцыі) недастаткова завострана ўвага савецкай грамадзкасьці.

У нашай працы ёсьць яшчэ шмат недахопаў.

1. Усё яшчэ нізкая ўраджайнасьць і, на падставе гэтага, таварнасьць па галоўных культурах у савгасах.

2. Высокая сабекаштоўнасьць прадукцыі ў савгасах як вынік, усё яшчэ параўнальна нізкай ураджайнасьці, слабая арганізацыя працы, нізкай вытворчасьці працы і недастатковага ўзроўню мэханізацыі галоўных працэсаў вытворчасьці.

3. Нізкі ўзровень тэхнічнай падрыхтоўкі кіруючых кадраў саўгасаў, недастатковая падрыхтоўка новых кадраў, нездавальняючая забясьпечанасьць савгасаў тэхнічнымі кадрамі.

4. Жыльлёвыя ўмовы ў саўгасах цяжкія, у сувязі з павялічэньнем колькасьці рабочых і недастатковым тэмпам жыльлёвага будаўніцтва не адпавядаючым нават мінімальным запатрабаваньням. Асыгнаваньні на гаспадарчае будаўніцтва таксама значна разыходзяцца з запатрабаваньнямі. Разьмеры фінансаваньня саўгасаў зусім не адпавядаюць тым вялізарным задачам па ўздыму сельскай гаспадаркі і вырашэньню шэрагу важнейшых праблем (па жывёлагадоўлі, сыр'ёвая база, прамысловасьці і інш.), якія ўскладзены на савгасы.

5. Узбуйненьне саўгасаў праходзіць недастатковым тэмпам, не забясьпечваючы выкананьня дырэктывы аб давядзеньні плошчы пад саўгасамі ў гэтым годзе да 200.000 *га*.

6. Ня гледзячы на зрух у сэнсе аказаньня дапамогі калгасам, саўгасы ўсё яшчэ недастаткова сябе праявілі, як праваднікі ідэй буйнай сацыялістычнай гаспадаркі. Некаторыя савгасы не зьяўляюцца яшчэ ўзорнымі ў сэнсе лепшага вядзеньня сельскай гаспадаркі.

7. Спаборніцтва і ўдарніцтва па савецкіх гаспадарках усё яшчэ не зьяўляюцца асноўным мэтадам барацьбы за якасныя паказчыкі саўгаскага будаўніцтва і носяць у значнай частцы савгасаў фармальны характар.

8. Наш друк, асабліва спэцыяльны с.-гаспадарчы, мала ўвагі ўдзяляе працы савгасаў, крытыцы адмоўных бакоў іх дзейнасьці.

Надаючы вялізарнае значэньне савгасам, якія зьяўляюцца прыкладам буйнай сацыялістычнай гаспадаркі—XIII Партзьезд КП(б)Б даў цэлы шэраг паказаньняў, аб далейшай працы саўгасаў і на падставе гэтых паказаньняў саўгасы павінны яшчэ больш шпаркімі крокамі пайсьці па шляху свайго разьвіцьця.

Мы павіны яшчэ больш упарта працаваць над тым, каб усе савгасы сталі сапраўднымі прыкладамі буйнае сацыялістычнае гаспадаркі з высокай вытворчасьцю ўсіх галін, з нізкім сабекоштам прадукцыі, з высокай вытворчасьцю і якасьцю працы.

Скончыўшы ў асноўным здавальняюча бальшавіцкую вясеньнюю сяўбу, неабходна, карыстаючыся сацыялістычным спаборніцтвам і ўдарніцтвам,—пераключыць усю энэргію рабочых калектываў савгасаў на пасьпяховае правядзеньне ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі.

**Грэбенчык.**

# Падмуркі сацыялістычнага земляробства

*(З жыцьця саўгасу імя „Калініна“)*

Навальніца Кастрычніка ў 1917 г. разбурыла падмуркі старога капіталістычнага ладу.

У Краснапальскім раёне, на палёх былога абшарніка, у 1919 г. на плошчы 495 *га* арганізавана „фабрыка“ сельскагаспадарчых прадуктаў—саўгас імя т. „Калініна“. Ня чуваць зараз на шырокіх панскіх палёх заўнылых гукаў песьні прыгоннай гаспадаркі. Яна зьмянілася песьняй барацьбы за лепшую будучыню, за новую сацыялістычную грамаду.

Моцныя рукі рабочых саўгасу зьмянілі выгляд зямельнае плошчы: зьнішчаны кусты, асушаны балота. Вузкімі прыгожымі канавамі прарэзаны палі на асобныя шырокія палосы.

Перажыты цяжкія гады разбурэньня, наступіў час росквіту саўгасу. Худая, дробненькая кароўка зьмяняецца на буйную прадукцыйную, а слабенькі конік зараз, часткова, заменены сталёвым канём — 25-сільным трактарам. Бяда толькі ў тым, што на гэты трактар яшчэ няма трактарыстага.

Вясеньні сеў—рашаючы бой за новыя перамогі саўгасу. Да гэтага бою саўгас быў поўнасьцю падрыхтаваны. Машыны, плугі, бораны і інш. сельскагаспадарчы інвэнтар былі быццам толькі-што з-пад малатка.

Насеньнем саўгас быў таксама поўнасьцю забясьпечан. Сёлетні год, у сувязі са спэцыялізацыяю гаспадарак, саўгас зьмяняе свой гаспадарчы напрамак—замест агульна-вытворчага, ён прымае ўхіл жывёлагадоўчы з вядучай галінай—прамысловай сьвінагадоўляй, бо яшчэ ў гэтым годзе, у сувязі з перадачай гаспадаркі трэсту „Сьвінавод“, будзе пастаўлена матачнае ядро сьвіней 200 шт. і на адкорм падсьвінкаў 300 шт.

Для разьмяшчэньня такой колькасьці пагалоўя сьвіней па пляну трэста „Сьвінавод“ гаспадарка павінна пабудаваць у бягучым годзе матачнік на 96 галоў, адкормачнік на 300 гал., кухню, ізалятар для сьвіней на выпадкі хваробы і жылы дом на 8 кватэр, бо для абслугоўваньня гаспадаркі неабходна будзе павялічыць штат рабочых. На ўсе грунтоўныя ўкладаньні трэстам „Сьвінавод“ асыгнавана на гэты год 57.363 руб.

Яравы клін у сёлетнюю весну засеены ў большасьці аўсом і бульбаю, з тым разьлікам, каб пашырыць стада сьвіней.

Саўгас расьце гіганцкім тэмпам. 3 тысячы рублёў дэфіцыту, якія меўся ў саўгасе, на сёньняшні дзень засталося толькі каля 700 рублёў.

Стада кароў узрастае не адзінкамі, а дзесяткамі штогод. Зараз у саўгасе налічваецца 68 галоў рагатай жывёлы і 25 галоў рабочай. Ёсьць вытворца-жарабец Арлоўскай пароды.

Ня зусім культурна пастаўлена жывёлагадоўля, але трэба спадзявацца, што яшчэ год—два і гэта цяжкасьць будзе пераможана. Вялізарным багацьцем саўгасу зьяўляецца сад, якога маецца, у двух мясцох, 30 *га*.

Сад—крыніца значных прыбыткаў саўгасу. У мінулым годзе ён даў прыбытку звыш 8.000 руб., пры зусім малай затраце рабочай сілы і часу на яго догляд.

Быт—хворае месца ў саўгасе. Яшчэ да гэтага часу па некаторых маленькіх кватэрах зьмяшчаюцца сем'і па 10 душ і больш. Жанчыны—дамашнія гаспадыні—усё яшчэ прыкаваны да кухні і да сваіх малых дзяцей. Саўгас не дае дапамогі на выхаваньне дзяцей рабочых і галава сям'і, маючы 5—6 душ непрацаздольных, павінен за 32 рублі свае зарплаты карміць і адзяваць сваіх выхаванцаў. Ці думаў над гэтым пытаньнем Белсельтрэст, нам невядома. А мабыць трэст і забыўся, што недзе ў далёкім кутку Беларусі, у Краснапольскім раёне існуе саўгас імя „Калініна“. Апошняе яшчэ пацьвярджаецца і тым, што трэст, ня гледзячы на просьбы саўгасаў, не дае ніводнай ка-





**Стада чырвонай беларускай жывёлы. Уверсе—на пашні, унізе—на вадапоі.**

пейкі ні толькі на жыльлёвае будаўніцтва, але нават і на капітальныя рамонты хлявоў для жывёлы. Усе цяжкасьці перамагаюцца на месцы самімі рабочымі. За 10 год яны загартаваліся на працы па адбудаваньню саўгасаў, сталі непахіснымі і ўпэўненымі ў перавагах буйнага сацыялістычнага земляробства.

Па ініцыятыве рабочых саўгас штогодна аказвае вялікую дапамогу навакольным бядняцкім гаспадаркам. Пушчаюцца дармова вытворцы, даюцца машыны на ачыстку насеньня, а ў мінулым годзе ўвосень цэлы дзень аралі трактарам палі бядняцкіх гаспадарак. У сёлетнюю вясеньнюю пасеўкампанію кавалі саўгасу адрамантавалі беднякам звыш 50 плугоў і цэлы шэраг іншых рэчаў, па падліку аказана дапамогі беднаце ў сёлетнюю вясну больш, як на 2.500 руб.

І. Семянкоў.

# Арцель „Барацьба“

*(Ново-Брашчынскага с/с, Шклоўскага раёну)*

Калектыўны рух захапіў амаль палову бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Нова-Брашчынскага сельсавету. Асабліва вялікі прыліў насельніцтва ў калгасы быў пасьля шырокага растлумачэньня ільгот калгасьнікам і артыкулу тав. Сталіна—„Адказы таварышам колгасьнікам“. За гэты пэрыяд арганізавана новых дзьве арцелі, „Новае Жыцьцё“, куды ўвайшла амаль поўнасьцю вёска Каменка і другая, якая лічыцца самастойным вытворчым вучасткам арцелі „Барацьба“. Неабходна адзначыць, што за красавік і май месяцы прынята ў арганізаваныя арцелі новых гаспадарак звыш 50. На першае чэрвеня гэтага году арцель „Барацьба“ складаецца з 9 вытворчых вучасткаў, якія знаходзяцца па розных вёсках гэтага сельсавету. Арцель мае плошчу зямлі 1735,78 *га*, што складае 70 проц. усяе плошчы Брашчынскага сельсавету.

Гаспадарак аб'яднана ў арцель „Барацьба“ на 1/VI—30 году 175, што складае 45 проц. усіх двароў с/с. Зараз арцель мае амаль усе сельска-гаспадарчыя машыны, за выключэньнем трактара.

А ён неабходзен, бо плошча арцелі досыць вялікая, З с.-г. машын маюцца наступныя: 14 жнеек, 1 сенакасілка, 1 сеялка, 2 рандаля, 5 культыватараў, 3 малатарні, 16 конных грабель, 5 двухсашніковых плугоў, 27 аднасашніковых і 76 сакаўскіх, 70 пружынных барон, 12 асыпнікаў, 2 сячкарні, 12 веялак і жмыхадрабілкі. Усе гэтыя прылады разьмеркаваны па асобных вытворчых вучастках адпаведна плошчы зямлі, якая ў іх ёсьць.

Абагулена жывёла ў арцелі: коняй 150, кароў 110, быкоў-вытворнікаў 8, сьвіней—126, авец—210 штук, жарабцоў вытворнікаў 2, бараноў—8, цялят маладняку 56, жарабят 15. Акрамя гэтага гаспадары маюць па карове, за выключэньнем тых, у каго іх зусім ня было. Апошнія атрымліваюць малако ў першую чаргу. З прадпрыемстваў арцель мае млын, малочны завод і кузьню, якая абслугоўвае і індывідуальныя гаспадаркі. Пад садам занята 18 *га* і ёсьць пасека з 80 сямей пчол, у большасьці рамачных „Дадана“ і „Лявіцкага“.

**Кіраўніцтва.** Арцельлю кіруе цэнтральнае праўленьне ў складзе 9 асоб, па аднаму прадстаўніку ад кожнага вытворчага вучастку. Старшыня арцелі віцебскі рабочы з ліку 25 тысячнікаў—т. Лубянаў.

Дзякуючы ўмеламу падыходу да калгасьнікаў і ўмеламу кіраўніцтву, тав. Лубянаў карыстаецца вялікім аўторытэтам ня толькі—калгасьнікаў, а і ўсяе навакольнае бядняцка-серадняцкай масы сялянства. Ёсьць бухгальтар і рахункавод, якія вядуць поўны грашовы вучот калгасу.

**Унутраны распарадак.** Працоўны дзень пачынаецца з 7 гадзін раніцы і да 7 гадз. вечару, з 2-х гадзінным перапынкам (з 12 да 2-х) на абед. 10-гадзінны працоўны дзень устаноўлены агульным сходам. На чале кожнае галіны працы стаіць брыгадзір, які за дзень наперад разьмяркоўвае, дзе каму працаваць. Кожны рабочы, як мужчына, гэтак і жанчына ведае, што заўтра ім рабіць. Праўда, былі моманты спазьненьня пасьля званка на 10—15 хвілін, але і гэта ўжо зьнішчана. Аплата ў арцелі робіцца згодна ўстаноўленых катэгорый, якіх вызначана самая нізкая 50 кап. і вышэйшая 1 р. 50 кап. Да нізкай адносіцца аплата падлеткаў. Акрамя гэтага шырока ўжываецца зьдзельшчына па нормах зацьверджаных агульным сходам.

Прыкладна ўстаноўлена: узараць адзін гектар параконным плугам—2 р. 20 к. і аднаконным 3 р. 30 к. Сеяць бульбу: хто арэ — плаціцца 1 р. 10 к., а хто садзіць—таму 90 кап. у рабочы дзень і г. д.

Вазіць гной таксама ўстаноўлена ад возу. У агуле — дзе магчыма прымяніць зьдзельшчыну, там і прымяняецца. Тут ужо няма падзелу на мужчыну і жэнчыну, а хто на якой працуе, той і атрымлівае. Брыгада, якая вылучана араць—узворвае колькі сьлед, а брыгадзір вядзе ведамасьць штодзенна і заносіць працу кожнага ў яго асабовы рахунак. У канцы месяцу падводзіцца вынік, дзе відаць, хто колькі працаваў і на якой рабоце, за што і атрымлівае зарплату. У сярэднім за апошнія два месяцы красавік—май, мужчына атрымаў 25-30 руб. у м-ц, а жанчына 18-20 р. у месяц. Члены арцелі атрымліваюць патрэбныя прадукты па цьвёрдай цане. Для плянаваньня ўсяе працы пры кожным вучастку арганізаваны вытворчыя нарады з 5—7 асоб, куды ўваходзяць



**Трактары ў камуне імя БВА на Мар'іне.**

брыгадзіры і асобныя спэцыялістыя па галінах, якія абмяркоўваюць, дзе што сеяць і калі. А калі трэба, дык пытаньне ставіцца і на агульным сходзе калгасу.

З працаю калгасьнікі спраўляюцца, аб чым гаворыць своечасовая скончаная вясеньняя сяўба.

Засеяна яравой пшаніцы 14,4 *га*, аўса 273 *га*, ячменю 50 *га*, грэчкі 17,5 *га*, гароху 9 *га*, вікі4 3 *га*, канюшыны 125 *га*, бульбы 115 *га*, лёну 76 *га*, кукурузы 2 *га*, канапель і гародніны 1 *га*. Усяго пасеяна ў яравым кліну 738,04 *га*.

Калгасьнікі дапамагалі засеяць і асобным бядняцкім гаспадаркам, якія ня маюць коняй. Дзякуючы правільнай і ўмелай працы калгасьнікаў, назіраецца і зараз прыліў асобных гаспадарак. Вёскі, як Мацава і Гарошкава заявілі: „мы ўжо пойдзем араць папар калектыўна“.

Пры арцелі арганізавана партыйная ячэйка з 3-х членаў і 2-х кандыдатаў партыі. Зараз ячэйка стала расьці за лік батрацка-бядняцкай часткі калгасьнікаў і камсамольцаў.

Культасьветная праца пастаўлена не на належную вышыню. Толькі пры двух вучастках „Барацьба“ і „Чырвоная Зорка“ ёсьць клюбы, дзе зьбіраюцца ў час адпачынку і чытаюць газэту. Урэшце вучасткаў культпрацы не вядзецца. Зараз у арцелі адчынены ясьці, якія даюць час жанчыне заняцца павышэньнем культурнага ўзроўню. Неабходна будзе настаўніцтву і ўсім культурным сілам вёскі і раёну заняцца ліквідацыяй няпісьменнасьці і арганізацыі розных гурткоў, што створыць яшчэ большую дысцыпліну ў адносінах да вытворчай працы.

Г. Шумілаў.

# Вэтэрынарыя БССР за 10 год

Прайшло 10 год з моманту вызваленьня БССР ад белапалякаў. За гэтыя 10 год упартае барацьбы на гаспадарчым фронце зроблена надзвычайна многа. Бядняцка-серадняцкае сялянства Савецкае Беларусі павінна добра ведаць аб усіх гэтых дасягненьнях. Кожны добра памятае, што за час імпэрыялістычнай вайны, калі наша старонка зьяўлялася арэнай вялікіх боек сусьветных капіталістых за аўладаньне чужым багацьцем, сялянская гаспадарка была амаль поўнасьцю разбурана і само сялянства часткова выкінута з роднага кутка. Значная доля цяжкасьцяй вайны выпала на БССР і яе працоўных. Толькі ў 1920 годзе працоўныя масы Беларусі канчаткова перамаглі і асланілі частку сваёй тэрыторыі ад апошняга ворага—белапалякаў.

Здавалася, што пасьля такога разбурэньня беларуская гаспадарка доўга ня справіцца, ня стане на ногі, а між тым у сучасны момант мы нават пачынаем забываць аб гэтым ліху. Па цэламу шэрагу паказчыкаў, аб якіх сказана ў іншых артыкулах, мы ня толькі дайшлі, але перасягнулі даваенны ўзровень. Тое самае і ў адносінах да вэтдапамогі—тут мы ня толькі дасягнулі, але і значна перавысілі вэтдапамогу ў параўнаньні з даваенным часам. Трэба толькі ўважліва і праўдзіва ацаніць усе зьявы і факты. Вось некалькі лічбаў.

### Савецкая ўлада ўзмацніла вэтдапамогу

У той час, калі ў 1912 годзе ў 3-х беларускіх губэрнях было ўсяго 39 вэтэрынарных вучасткаў, у 1921-22 годзе—44 вучасткі, то цяперака ў нас на Беларусі ёсьць 164 вэтурачэбных вучасткаў.

У 1912 г. была аказана вэтдапамога 111 тыс. 764 галовам жывёлы, у 1921-22 г.—92.379 чал., а ў апошнім 1928-29 справаздачным годзе праз вэтлячэбніцы і вэтамбуляторыі прайшло 967.860 гал.; усяго-ж за 10 год было на лячэньні каля 25 мільёнаў галоў хворай жывёлы.

Вэтэрынарная дапамога сац. сэктару с/г. і бядняцка-серадняцкім колам насельніцтва аказваецца дарма, на што цзяржава адпушчае даволі значныя сродкі. Так, у 1928-29 г. на лячэньне хворай жывёлы і на барацьбу з эпізоотыямі было адпушчана ўсяго 1.022.741 рублёў, у бягучым-жа годзе адпушчана на гэту мэту 2.135.840 руб. і ў будучым годзе намечана адпусьціць 4.300.100 рублёў.

### Будуюцца новыя вэтлячэбніцы

У справе вэтэрынарнага будаўніцтва ў нас ёсьць значныя дасягненьні: нанава пабудавана каля 78 тыпавых вэтэрынарных лячэбніц; у бягучым годзе будуецца 52 вэтлячэбніцы і на будучы 1930-31 год намечана пабудаваць таксама 52 вэтлячэбніцы.

З пабудовай вэтлячэбніц зьвязана лекава-профілактычная праца па ўчыненьню лекавай дапамогі хворай жывёле і па правядзеньню профілактычных мерапрыемстваў, папярэджваючых узьнікненьне хвароб; вэтлячэбніцу можна параўнаць з дыспансэрам, дзе выяўляюцца заразьлівыя хваробы жывёлы і ў адпаведным выпадку жывёла застаецца ў спэцыяльным аддзяленьні вэтлячэбніцы для далейшых дасьледваньняў; з другога боку вэтурач, грунтуючыся на працы вэтлячэбніцы, трымае шчыльную сувязь з залюднёнымі пунктамі свайго вучастку, вывучваючы яго вэт-санітарнае становішча, каб зьнішчыць заўважаныя недахопы як у санітарных адносінах, так і зоогігіенічных.

Апрача гэтага адрамантавана шмат лячэбніц і амбуляторый, прычым на гэту мэту толькі за апошнія тры гады выдаткавана было каля 500 тысяч рублёў.

### Спадчына царызму—пошасныя хваробы—перамагаецца

Да Кастрычнікавай рэволюцыі і ў часе імпэрыялістычнай вайны сялянства ня мела шырокай вэтдапамогі. У 3-х беларускіх губэрнях (Менскай, Магілеускай, Віцебскай) было 39 вэтурачэбных вучасткаў, якія абслугоўвалі, галоўным чынам, буйныя панскія гаспадаркі. З прычыны гэтага на тэрыторыі цяперашняй Беларусі існавалі розныя пошасна-заразьлівыя хваробы, ад якіх прападала штогод шмат жывёлы.

У 1920 годзе, у часе вайны з белапалякамі, на тэрыторыю Беларусі пранікла чума буйнае рагатае жывёлы, якая захапіла тады 4 паветы і зьнішчыла ў іх каля 80 процантаў усёй буйнай рагатай жывёлы. Толькі ўжо па вызваленьні БССР ад белапалякаў, дзякуючы рашуча прынятым захадам Савецкай улады, якая не шкадавала сродкаў для барацьбы з хваробаю, чума была ліквідавана. Высілкамі савецкага вэтпэрсаналу была таксама спынена зьявіўшаяся ў 1922 г. на Мазыршчыне, а некалькі пазьней і на Меншчыне, вельмі заразьлівая хвароба—пошаснае запаленьне лёгкіх буйнае рагатае жывёлы.

Для больш пасьпяховай барацьбы з эпізотыямі жывёлы Савецкая ўлада рэарганізавала Віцебскую Вэтэрынарна-Бактэрыолёгічную лябораторыю ў Беларускі Дзяржаўны Вэтэрынарна-Бактэрыолёгічны Інстытут, у якім у сучасны момант вырабляюцца прышчэпкі супроць заразных хвароб, прычым, тады як у 1921-22 г. такіх прышчэпак было выраблена ўсяго 341,9 літ., у 1928-29 годзе іх было выраблена ўжо 3.399 літр. Побач з гэтым для папаўненьня кадраў вэтурачоў, улада адчыніла ў 1924 г. у г. Віцебску Вэтэрынарны Інстытут які ў сучасны момант зрабіў ужо 3-ці выпуск маладых вэтурачоў, пры чым за гэты час усяго было выпушчана каля 240 вэтурачоў.

### Праводзіцца вэтасьветная работа

Вэтасьветная работа выражалася ў растлумачэньні пытаньняў вэтэрынарна-санітарнага характару сялянству, у правядзеньні лекцый, гутарак, курсаў і ўдзел вэтпрацаўнікоў у с.-гасп. выстаўках. У мінулым годзе праведзена было 8.147 лекцый і гутарак, на якіх было каля 260.000 слухачоў, у 1921-22 г. лекцый і гутарак было праведзена 987, на якіх прысутнічала каля 54.679 слухачоў. Апроч гэтага, было выдадзена некалькі плякатаў, лістовак і брашур па вэтэрынарыі, на што было выдаткована да 5.000 руб. Вядома, што ў дарэволюцыйны час культасьветная работа зусім не вялася і вэтэрынарныя веды не перадаваліся ў масы насельніцтва.

### Трэба яшчэ больш палепшыць вэтэрынарную справу па БССР

Апроч посьпехаў, якія ўжо вызначаны памянёнымі лічбамі, неабходна падкрэсьліць яшчэ дасягненьні вучастковых вэтпрацаўнікоў у прыцягненьні савецкай грамадзкасьці да ўдзелу ў пабудове вэтэрынарнай справы; на сялянскіх сходах, на паседжаньнях райвыканкомаў, сельсаветаў усё мацней і мацней раздаюцца галасы самых працоўных мас за пашырэньне сеткі вэтвучасткаў і за лепшае абсталяваньне іх.

**Вэтэрынарны ўрач НКЗБ М. ЖАРЫН.**

# АРГАНІЗАЦЫЯ ПАЛЯВОДЗТВА І ЎЗДЫМ УРАДЖАЙНАСЬЦІ



Падрыхтоўка глебы да пасеву ў яўрэйскім с.-г. тэхнікуме. (Курасоўшчына).

## Да пытаньня падвышэньня ўраджайнасьці па Аршаншчыне

Надзвычайна нізкія ўраджаі і вялікае іх хістаньне па гадох падрывае эканамічнае жыцьцё акругі. Такі недапушчальна слабы тэмп падвышэньня ўраджайнасьці ў далейшым можа паставіць пад пагрозу ня толькі задавальненьне прамысловасьці сыравінай, але і выклікаць шэраг цяжкасьцяй у забясьпечаньні прадуктамі сельскае гаспадаркі рабочае клясы гораду. Таму ў задачу сёняшняга дню ставіцца перад каапэрацыйнымі, с.-г. арганізацыямі і земорганамі настойлівае ажыцьцяўленьне поўнага выкананьня заданьняў урадавых органаў па падвышэньню ўраджаю па саўгасах на 45 проц., калгасах на 30 проц. і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках на 20 проц., з абавязковым павялічэньнем таварнасьці і прыбытковасьці гаспадарак.

Гэтае заданьне, ня гледзячы на ўсю яскравасьць, ва ўмовах дробнае сялянскае гаспадаркі зьяўляецца надзвычайна цяжкім для ажыцьцяўленьня. Найхутчэйшае вырашэньне гэтае задачы можа быць толькі ва ўмовах **ўзбуйненай гаспадаркі**.

Памятаючы гэта трэба большасьць мерапрыемстваў накіраваць у такім напрамку, каб яны вялі к хутчэйшай перабудове дробнае сялянскае гаспадаркі ў калектыўныя формы. Але адначасова з гэтым трэба накіраваць сыстэму мер і на індывідуальны сэктар, які ахапляе пакуль што каля 90 проц. гаспадарак ад агульнага ліку іх па акрузе, каб ён таксама падвысіў вытворчасьць працы і ня быў выкінуты за „борт“.

З тэхнічна-агранамічнага боку высокія ўраджаі Заходняй Эўропы і нашых дасьледчых станцый абавязаны тром наступным фактам: культурнай апрацоўцы глебы, пасеву сэлекцыйным і гатунковым насеньнем і ўжываньнем угнаеньня. Прычым 50 проц. дасягнутага посьпеху адносіцца на долю ўгнаеньняў, 30 проц. на палепшаную апрацоўку глебы

і 20 проц. на долю сэлекцыйнага ці гатунковага насеньня. Адсюль вывад, што і аршанцам трэба ўзяць пад увагу гэтыя фактары, каб у найхутчэйшы час падняць ураджай сваіх палёў у 2—3 разы.

Культурная апрацоўка глебы зьвязана з ужываньнем культурных прылад і машын, сваячасовай воранкай і севам. Таму трэба ўжыць усе захады, каб калгасам і бядняцка-серадняцкаму сялянству даць адпавядаючыя с.-г. машыны. У прыватнасьці, трэба зьнішчыць саху як глеба-апрацоўчую прыладу (Чарэйскі, Крупскі, Багушэўскі раёны) і замяніць яе адпавядаючай маркі плугам. Ужываньне плуга „Бранскага культурнага маркі 7К“ з дзёрназдымам, у параўнаньні з іншымі плугамі, па даных Старасельскага машынаспробнага пункту (досьледы праф. Сладкова) за шэраг гадоў—дае павялічэньне ўраджаю жыта на 9,6 проц., бульбы на 9,4 проц. і аўса на 12,2 проц. Радавы сеў у параўнаньні з машынамі раскіднога севу, дае павялічэньне ўраджаю на 10—15 проц., пры зьберажэньні каля 25 проц. насеннага матар'ялу. Далей, зерняачыстка, якая павялічвае ўраджай для зімовых культур на 7—10 проц. і для яравых 10—15 проц., пратручваньне насеньня супроць галаўні забясьпечвае павялічэньне ўраджаю на 10-15 проц.

Адносна сваячасовай апрацоўкі глебы трэба адзначыць, што ўжываньне на супясках асеньняга ворыва, у параўнаньні з вясновым, пад яравыя культуры, павялічвае ўраджай на 10 проц. На суглінках асеньняе ворыва з глыбокай асеньняй пераворкай (па даных Турскай і Менскай с.-г. дасьледчых станцый) павялічвае ўраджай ярыны на 3—13% у параўнаньні з глыбокім вясеньнім ворывам. Для яравых культур асабліва карысна лушчэньне глебы зараз-жа пасьля прыборкі зімовых культур, якое на суглінках павялічвае ўраджай на 25 проц.

Падыходзячы к апрацоўцы глебы пад пасевы зімовых культур, прыходзіцца застанавіцца амаль выключна на занятых папарах. Надаючы ім поўную перавагу перад позьнімі сялянскімі папарамі (як нізка прадукцыйнымі) і перад раньнімі чыстымі папарамі (па прычыне дэфіцытнасьці кармовага пытаньня ў летні час), наліччa сакавітых кармоў (віка-аўсяная мешанка, скарасьпелая бульба, турнэпс і г. д.) пры ўвядзеньні занятых папараў будзе спрыяць разьвіцьцю жывёлагадоўлі. А гэтая галіна па Аршаншчыне зьяўляецца асноўнай, якой павінна быць падпарадкавана палявая гаспадарка. З другога боку скарачэньнем позьняга пасьвішчанага папару і павялічэньнем за яго кошт занятага, мы павялічваем пасеўную плошчу, чым, вядома, павялічваем таварнасьць і прыбытковасьць сельскае гаспадаркі.

Вышэй адзначалася, што ўжываньне гатунковага насеньня падвышае ўраджай да 20 проц. Між тым, па Аршаншчыне, ня гледзячы на наліччa гатунковага насеньня, з завезеных 24.505 *цнт* гатунковага аўса па становішчу на 1-е мая, было абменена і разьмяркована ўсяго 62%. Раёны: Аршанскі, Горацкі, Дрыбінскі, Дубровенскі, Коханаўскі, Мсьціслаўскі і Расьнянскі цягнуліся ў хвасьце, ня ўлічвалі, што кожны прапушчаны ўвесну дзень цяжка б'е па ўраджаі ўвосень.

Трэці фактар падвышэньня ўраджаю—угнаеньні. Але ў нас і з гэтым кепска, з прычыны недахопу гною, насеньня лубіну, недахопу штучных угнаеньняў і зрыву пляну вапнаваньня і тарфаваньня. Трэба зараз-жа ўзяцца за павялічэньне ўгнойваньня палёў шляхам складаных спрыяючых умоў для разьвіцьця жывёлагадоўлі і поруч з гэтым перайсьці на больш танны і хуткі спосаб падвышэньня ўраджаю, праз увядзеньне штучных угнаеньняў. Іх найбольш рацыянальна і выгадна прымяняць пад больш таварныя культуры, як лён, бульба, каноплі і г. д.

Далей трэба правесьці такія мерапрыемствы, якія хоць і не зьяўляюцца ў поўным сэнсе мерапрыемствамі па хэмізацыі сельскае гаспадаркі, але падрыхтоўваюць глебу да большага скарыстаньня штучных угнаеньняў у далейшым. Гэтым будзе забясьпечаны збыт той колькасьці штучных угнаеньняў, якія выпрацоўвае наша хэмічная прамысловасьць у першую пяцігодку. Да гэтых мерапрыемстваў адносяцца: вапнаваньне, тарфаваньне і фасфарызацыя глебы. Фасфарытная мука для Аршаншчыны можа з посьпехам замяніць супэрфасфат, якога ў нас не хапае, пры ўмове ўнясеньня яе ў глебу ў падвоенай колькасьці. Фасфарызацыя на Аршаншчыне мае асабліва важную ролю, бо на тэрыторыі акругі ёсьць залежы фасфарытаў, для перапрацоўкі якіх у Мсьціслаўскім раёне пабудаваны завод.



Угнаеньне глебы.

Вапнаваньне зьяўляецца абавязковым фундамантам для ўжываньня іншых мінэральных угнаеньняў. На некаторых-жа глебах нашай падзолістай паласы вапнаваньне само па сабе выклікае падвышэньне ўраджаю. Правядзеньне-ж гэтага мерапрыемства сустракае цяжкасьці ня толькі з боку арганізацыйнага і матар'яльнага, але і па прычыне недастатковага азнаямленьня з гэтым пытаньнем насельніцтва, а падчас і адмоўных адносінах да яго з боку зямельных і агранамічных працаўнікоў (Мсьціслаўскі раён).

Па даных аналізаў Аграхэмічнага аддзелу Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі глебы Аршанчыны на 89,8 проц. патрабуюць вапнаваньня, з іх 50,55 проц. нават моцнага вапнаваньня.

Згодна аналізу, па Мсьціслаўскаму раёну з усіх дасьледчых глеб 97,6 проц. патрабуюць вапнаваньня, з іх 56,1 проц. моцнага, што ў корані разьбівае памылковую думку працаўнікоў Мсьціслаўшчыны (к вя-

лікаму жалю і аграпрацаўнікоў), што глеба гэтага раёну ня кіслая, а таму вапнаваньню не падлягае.

Па Дрыбінскаму раёну 96,15 проц. дасьледваных глеб патрабуюць вапнаваньня, з іх 76,95 проц. моцнага. Па Расьнянскаму раёну—91,3%, з іх 69,55 проц. моцнага. Па Горацкаму ўсе дасьледваньні (па гідралітычнай кіслотнасьці) глебы патрабуюць вапнаваньня, з іх 54,6 проц. моцнага. Па Дубровенскаму раёну 84,6 проц. ад дасьледваных глеб патрабуюць вапнаваньня, з іх 30,75 проц. моцнага. Па Багушэўскаму раёну 80% з іх 50 проц. моцнага і па Ляднянскаму раёну—75 проц. дасьледчаных глеб патрабуюць вапнаваньня, з іх 62,5 проц. моцнага. Па рэштцы раёнаў у Акрза даных няма, бо ў мінулым годзе гэтымі раёнамі глебавыя пробы дасланы на Горацкую дасьледчую станцыю на аналіз у недастатковай колькасьці, а некаторыя і зусім не даслалі.

Можна з упэўненасьцю сказаць, грунтуючыся матар'ялами Горацкае дасьледчае станцыі, што нашы глебы ў большасьці кіслыя і патрабуюць унясеньня вапны, але-ж, з другога боку, трэба быць асьцярожным пры вапнаваньні і ні ў якім выпадку не вапнаваць без папярэдняга аналізу.

Справу з тарфаваньнем глебы патрэбна лічыць на веснавы час у нас сарванай, а таму неабходна зараз-жа ўзяцца за гэту справу і правесьці яе абавязкова пад зімовыя культуры.

Наступнае—гэта ўжываньне шматпалёвых севазваротаў, якія павялічваюць ураджай, у параўнаньні з 3-палёўкай, на 30—45 проц.

У заключэньне трэба сказаць, што справа падвышэньня ўраджаю—справа ўсёй грамадзкасьці. Лічыць, што гэта зробяць адны зямельныя і каапэрацыйныя органы—нельга. Як-бы шырока ня была пастаўлена праца зямельных органаў, усё-ж яна будзе мала прадукцыйнай, калі ня будзе апірацца на ініцыятыву і самадзейнасьць насельніцтва. Толькі апора на партыйныя, камсамольскія арганізацыі, на с.-г. сэкцыі сельсаветаў, аграўпаўнаважаных, с.-г. гурткі, актыў вёскі, каапэратывы і калектывізацыя забясьпечыць посьпех у цяжкай і ўпартай барацьбе за ўстойлівую гаспадарку і за падвойны ўраджай.

Аграном **С. Герасімаў.**

---

# Рыхтуйцеся да ўборкі ўраджаю

Прыборку збожжа, каб мець менш страт ад асыпаньня, а таксама і падрыхтаваць насеньне к азімаму пасеву без спазьненьня, неабходна рабіць сваячасова.

Дасьпяваньне збожжа працягваецца прыблізна каля двух тыдняў. Адрозьніваюць малочную сьпеласьць, калі зярно яшчэ зеленаватае і пры расьціскаваньні з яго выцякае белы, як малако, сок. Другая стадыя, гэта васковая сьпеласьць, у гэты час сьцябло і лісьце жаўцее, зярно таксама прымае жоўты колер, цьвярдзее, але-ж лёгка рэжацца кіпцем і мнецца ў пальцах, як воск. Нарэшце, пры поўнай сьпеласьці сьцябло і лісьце зусім жаўцеюць, падсыхаюць, а зярно на столькі цьвярдзее, што кіпцем яго разрэзаць немагчыма.

У час поўнай сьпеласьці зярно лёгка абсыпаецца і калі ў гэты час рабіць прыборку ўраджаю, дык будзе шмат страты ад асыпаньня зернят. З моманту васковай сьпеласьці і да поўнага дасьпяваньня робіцца

толькі выпароўваньне лішку вады з зерня, якое з посьпехам можа адбыцца і ў зжатым хлебе. Таму, каб зьнішчыць страты ад асыпаньня зерня, збожжа трэба прыбіраць у момант васковай сьпеласьці. Прыбіраць хлеб неабходна жняяркамі, якія даюць магчымасьць хутка яго зжаць. Пры ручной прыборцы, якая ідзе марудна і калі нават яе пачалі сваячасова, яна ўсё-ж зацягваецца, збожжа перасьпявае і зерне пачынае асыпацца.

Зжаты хлеб акуратна складваюць у бабкі, каб у іх не зацякала вада і дасушваюць на полі. Зараз у калгасах маюцца засевы гатунковага жыта, пры прыборцы якога трэба зьвярнуць увагу на наступнае. Калі побач палетку з гатунковым жытам ёсьць негатунковыя засевы, а менавіта бліжэй чым на 500 мэтраў, дык магчыма крыжаапылкаваньне з таго боку поля, якое мяжуе з негатунковымі пасевамі, а ў сувязі з гэтым і засьмечанасьць гатунковай чыстаты. Каб захаваць гатунак жыта больш чыстым, пры ўборцы неабходна адбіваць ахоўныя палосы. Гэта робіцца наступным чынам: на гатунковых пасевах адмяраюць 500 мэтраў з таго боку палетку, дзе мяжуецца негатунковае жыта. Гэта і будзе ахоўная паласа, на якой магчыма крыжаапылкаваньне. Яе зжынаюць асобна ня зьмешваючы з чыстым пасевам, што далей 500 мэтр. ад негатунковага. Астатняе жыта звозяць і абмалачваюць асобна. Жыта з абаронай паласы ідзе, як гаспадарчае на спажыву. Каб пачаць сваячасовую прыборку ўраджаю, трэба заранёй паклапаціцца, каб усё неабходнае было падрыхтавана к пачатку прыборкі. У калгасах і саўгасах павінны быць добра абгледжаныя і адрамантаваныя жняяркі, часткі да іх, галоўным чынам нажы, сэктары да іх і шатуны, якія пры рабоце часта ламаюцца. Трэба жаць да поўдня адным нажом, а пасьля поўдня другім, той-жа нож, якім жалі з раньня неабхона добра адтачыць. Належыць падрыхтаваць дастатковую колькасьць алеанафты для шмараваньня машын. Калі жаць не снапавязалкамі, а жняяркамі самаскідкамі, або лабагрэйкамі, дык неабходна зараз-жа падлічыць колькасьць патрэбных рабочых для вязкі снапоў і забясьпечыць тым або іншым шляхам неабходную рабсілу.

Абгледзець транспарт і адрамантаваць яго. Трэба мець запасныя калёсы, драбінкі к фурам і ўсё неабходнае для хуткага рамонту вазоў, калі яны зламаюцца ў час перавозкі ўраджаю.

Надта дрэннае становішча з транспартам у шэрагу саўгасаў. К вясеньняй сяўбе яго адрамантавалі, але-ж ён на столькі зломан, што ў сучасны момант яго зноў трэба рамантаваць, акрамя таго, назіраецца і наогул недахоп транспарту. Усё гэта трэба ўлічыць, каб прыборку ўраджаю магчыма было зрабіць хутка. Прыборка ў савгасах і калгасах павінна быць ударнай.

**Чэмелаў.**

## За поўнае выкананьне плянаў асеньняй сяўбы.

## За пасьпяховую ўборку новага ўраджаю.

# За арганізацыю кармавой базы і за забясьпечаньне краіны насеньнем кармовых расьлін

Жывёлагадоўля зьявіцца галоўнай галінай сельскае гаспадаркі ў БССР. Разьвіцьцю жывёлагадоўлі ня толькі спрыяюць прыродна-кліматычныя ўмовы краіны, але гэтага разьвіцьця патрабуюць пралетарскія цэнтры ў якасьці сыравіны для прамысловасьці і прадукцыйнай сыравіны для рабочае клясы. Апрача таго, атрымаўшы належную колькасьць гною, магчыма чакаць значных ураджаяў. Сучаснае становішча сельскае гаспадаркі патрабуе рашуча ўзяцца за разьвіцьцё жывёлы, як у бок колькаснага яе павялічэньня, гэтак і павялічэньня яе прадукцыйнасьці.

Надавая вялікую ролю жывёлагадоўлі ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі краіны, патрэбна памятаць, што разьвіцьцё жывёлагадоўлі амаль у асноўным залежыць ад наяўнасьці кармавых рэсурсаў.

Разгортваньню жывёлагадоўлі павінна папярэджваць стварэньне сталай і патрэбнага памеру кармавой базы. Так пастанавіў Савет Народных Камісараў аб веснавой с.-г. кампаніі 1930 году па пытаньню разьвіцьця жывёлагадоўлі *з адначасовым пашырэньнем кармавой базы.*

Устаноўка яскрава і на падставе яе мы павінны разгортваць практычныя мерапрыемствы як па *разьвіцьцю* жывёлагадоўлі, так і па стварэньню кармавых рэсурсаў.

Асноўнымі крыніцамі кормаздабываньня патрэбна лічыць вытвар корму на палёх, скарыстаньне прадукцыі натуральных лугоў, пашы і арганізацыі штучных выпасаў.

Арганізацыя кармовай базы—справа нялёгкая. Яна ў значнай ступені залежыць ад пасьпяховага і своечасовага вырашэньня пытаньня аб забясьпечаньні калгасаў, саўгасаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак тымі асноўнымі рэчамі, якія спрыяюць разьвіцьцю культуры кармовых расьлін поля, сенажаці і пашы. Гэткімі рэчамі, ад якіх залежыць культура кармовых расьлін, патрэбна ў асноўным лічыць наяўнасьць адпаведных відаў і сартоў насеньня кармовых расьлін.

Забясьпечаньне краіны адпаведнай колькасьцю і якасьцю насеньня кармовых расьлін зьяўляецца зараз актуальным і асноўным пытаньнем. Той, хто жадае, пасьпяхова вырашыць праблему мяса, малака, масла—павінен з адначасовым ростам стада, вырашыць пытаньне з забесьпячэньнем краіны насеньнем, г. з. вырашыць праблему насеннаводзтва кармовых расьлін.

Калі ў галіне насеннаводзтва асноўных збожжавых расьлін маюцца значныя дасягненьні як з якаснага, гэтак і з колькаснага боку, дык у адносінах кармовых траў (палявых, лугавых), корняклубняплодаў,—справа абстаіць зусім нездавальняюча.

Усесаюзная нарада па насеннаводзтву, якая адбылося нядаўна, канстатавала, што мяркуемай прадукцыяй насеньня траў ад ураджаю 1930 г. магчыма забясьпечыць вельмі нізкі процант запатрабаваньня пасеўных плошчаў 1931 году. Так, напрыклад, па лугавым расьлінам процант забясьпячэньня па СССР будзе 9,5 проц., па эспарцэту—43,7 проц., цімафееўкі—98 проц., вікі яравой—70 проц., вікі зімовай—9,5%, пялюшкі—12,2 проц., лубіну—60,2, сэрадэлі—68,3, канюшыны—100,7%. Патрэбна папярэдзіць, што балянс насеньня вылічаўся пры ўмове поўнага выкананьня плянаў у гэтым годзе, якія былі складзены са значнай напружанасьцю ў бок іх павялічэньня.

Апошняе дае права меркаваць, што процант задавальненьня патрэб у насеньні яшчэ паменшыцца, улічваючы рух выкананьня плянаў па насеннаводзтву і насеннай контрактацыі. Гэткае становішча патрабуе: 1) узмацненьня мерапрыемств да поўнага выкананьня плянаў насеннаводзтва і насеннай контрактацыі ўнутры нашай краіны, 2) разгортваньня масавых мерапрыемств сярод насельніцтва за астаўленьне імі пасеваў на насеньне і не скарыстоўваньня іх на корм, 3) бязупынная праца па пашырэньню насеннаводзтва на будучы час шляхам арганізацыі насеннаводных гаспадарак (калгасаў, саўгасаў) з тым, каб забясьпечыць вытвор патрэбнай колькасьці насеньня і гэтым вызваліць разьвіцьцё кармовай базы і жывёлагадоўлі ад завозу насеньня з па-за меж БССР.

Трэба адзначыць, што каапэрацыйнымі цэнтрамі і іх пэрыфэрыямі



Усходы пялюшкі з аўсом



Разьвіцьцё насеннай серадэлы.

а таксама і мясцовымі зямельнымі органамі недастаткова ўдзяляецца ўвага справе насеннаводзтва, што тлумачыцца недаацэнкай імі значэньня насеннаводзтва, як сродку вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы. У той час, калі патрэбы ў насеньні значныя, калі запатрабаваньне ў насеньні і кан'юнктура насеннага рынку патрабуюць шпаркага разьвіцця вытвору насеньня ўнутры краіны, а вытвор насеньня—як асобная галіна сельскае гаспадаркі можа быць лепш усяго забясьпечана ў спэцыялізаваных насенных гаспадарках аб'яднаных у спэцыялізаваную сыстэму (насенкалгассаюз, насентрэст).

Тое што да гэтага часу яшчэ калгасы не аб'яднаньны ў сыстэму цягне шмат непаразуменьняў, прыкладам чаго ў гэтым годзе мы маем невыдзяленьне калгасаў для насеннаводзтва, а ў іншых мясцох

выдзеленым насенкалгасам наданы сьвінаводны напрамак і г. д. Гэткае хістаньне ў арганізацыі насеннаводзтва павінна быць зьнішчана і патрэбна прымусіць сэктары (дзяржаўны і калгасна-каапэрацыйны), каб яны праз арганізацыю спэцыялізаванай сыстэмы па насеннаводзтву сгала пачалі займацца насеннаводзтвам. Патрэбна, каб кожны сэктар змог забясьпечыць сябе насеньнем для ажыцьцяўленьня запраэктаваных тэмпаў разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Патрэбна зьнішчыць недапушчальнае становішча, пры якім у БССР завозіцца шмат насеньня, што відаць з наступнай табліцы:

Колькі па гадох завезена насеньня ў БССР.

| РАСЬЛІНЫ / ГАДЫ | 1926 | 1927 | 1928 | 1929 | 1930 |
|---|---|---|---|---|---|
| Канюшыны: у тонах | 201 | 384 | 416 | — | 760 |
| у проц. | 100% | 190% | 225% | — | 380% |
| Цімафейкі: у тонах | 18 | 43 | 78 | 83 | 83,3 |
| у проц. | 100% | 240% | 333% | -- | 461% |
| Віка яравая: у тонах | 447 | 933 | 1.632 | — | 1.000 |
| у проц. | 100% | 208% | 365% | — | 223% |
| Лугавых траў: на тыс. р. | — | — | — | 37 | 82 |
| у проц. | — | — | — | 100% | 222% |
| Кораньплоды: у тонах | 22 | 47 | 82 | 147 | 181 |
| у проц. | 100% | 214% | 305% | 668% | 823% |

З прыведзенага відаць, што завоз насеньня нават штогод павялічваецца. Гэта становішча ня толькі нецярпіма з боку транспартных меркаваньняў, але і па прычыне ня зусім добраякаснасьці і не заўсёды поўнай прыгоднасьці да ўмоў Беларусі завазімага насеньня. Месца і ўмовы росту насеньня (у сэнсе глебава-кліматычных умоў) зьяўляюцца актуальнымі пытаньнямі пры скарыстаньні насеньня на засеў. У асноўным патрэбна браць курс па акліматызаванае насеньне, вырашчанае ў мясцовых умовах. Для падкрэсьліваньня прыводзім наступную вытрымку з артыкулу тав. Суворава (кароткае паведамленьне з работ Беларускай станцыі Інстыту Прыкладное Батанікі і новых культур „Известие опытной агрономии т. VII, № 6, 1929 г.)—ён піша: „Клеверное семеноводство в Республике только еще начинает развиваться, свои семена имеются в очень ограниченном количестве, потому основная масса семенного материала ввозится из различных районов Союза, чаще всего из Украины, а иногда и из-за границы. Пригодность этих клеверов в условиях Белоруссии еще недостаточно выявлена; частично привозимые клевера здесь быстро выпадают, сильно страдают во время зимовки, дают низкий урожай. Если русские ранние клевера отличались в наших условиях сравнительно низким процентом зимостойкости, то среди Западно-европейских клеверов это явление выявилось еще более ярко. Клевера заграничного происхождения оказались мало подходящими для условий Белоруссии“.

Усяго гэтага дастаткова, каб асазнаць неабходнасьць фарсіраваньня мерапрыемств вытвару насеньня ўнутры краіны. Аднак, вынікі насеньнай кантрактацыі мінулага году, вынікі насенанарыхтовак, вынікі руху насеннай кантрактацыі гэтага году гавораць, што на гэтым гаспадарчым фронце ў нас ня ўсё добра, што аб гэтым зараз трэба біць трывогу.

Час і магчымасьці, каб цалкам забясьпечыць насеньнем патрэбы будучага году—ёсьць, неабходна толькі, каб кожны саўгас, калгас, і бядняцка-серадняцкая гаспадарка з ліку сваіх кармавых пасеўных плошчаў значную частку пакінулі на насеньне. Гэта мерапрыемства патрэбна зрабіць зараз, нават, за рахунак памяншэньня кармовай прадукцыі. Толькі рашучымі крокамі гэтага году мы забясьпечым нармальнае разьвіцьцё пашырэньня кармовых плошчаў у будучым. Асобная ўвага павінна быць зьвернута пасевам зімовай вікі, насеньне якой, як заўважана раней, зьяўляецца зусім дэфіцытным. Неабходна дабіцца, каб усе плошчы засеву яе былі цалкам пакінуты на насеньне. Усіх тых, хто з пасеваў не пакіне патрэбную плошчу для атрыманьня насеньня з мэтай задавальненьня сваіх патрэб і для пакрыцьця пашырэньня плошчы кармовай базы, патрэбна разглядаць як зрываючых базу разьвіцьця жывёлагадоўлі, а іх дзейнасьць, як разбазарваньне насеньня.



Разьвіцьцё азімай вікі з жытам.

Кожны аграпрацаўнік павінен вакол гэтых пытаньняў завастрыць усю ўвагу сваёй дзейнасьці і рашуча разгарнуць патрэбныя мерапрыемствы для забясьпечаньня насеньнем кармовай плошчы будучага году. Патрэбна рашуча ставіць пытаньне аб стварэньні належных умоў разьвіцьця насеннаводзтва кармовых расьлін, канцантруючы гэту працу ў выдзяляемых для гэтай мэты спэцыялізаваных насенных гаспадарках (калгасах, саўгасах), выдзяліўшы іх у спэцыялізаваную насеннаводную сыстэму.

Аграном **Бялоў**.

# Уборка сена ў пагоду і дрэннае надвор‘е

Няправільная ўборка сена вельмі стратна для гаспадаркі. Таму трэба адмовіцца ад уборкі сена па старому спосабу, бо ён памяншае на тысячы тон каштоўнейшыя кармы у Рэспубліцы.

Перш за ўсё аб тэрміну ўборкі сена. Трэба прыняць, як правіла, што выгадней касіць больш маладую траву, чым старую. Калі перастояная трава і дае, быццам, большы ўраджай, дык сена з старое травы менш спажыўнае, чым з маладой. Асабліва гэта датычыцца да т. зв. бялковай матэрыі ў корме. Касіць трэба або ў пачатку цьвіценьня, або ў цьвяту, але ні ў якім разе не пазьней. Да таго-ж на раней скошаным сенакосе хутчэй адрастае атава. Гэта трэба мець на ўвазе як у выпадках пасьбы жывёлы па атаве, так і пры застаўленьні яе для другога ўкосу.

Трэба мець на ўвазе—што скошаная трава траціць вільгаць больш за ўсё праз лісьце. Таму, калі траву неабходна высушыць хутка,



Уборка канюшыны ў камуне імя 12 зьезду КП(б)Б.

дык трэба ўжываць такі спосаб, пры якім захоўваецца больш лісьця на сьцяблох. Сьцяблы бяз лісьцяў сохнуць вельмі доўга нават і ў добрую пагоду; напр., для сьцяблоў канюшыны, або вікі патрэбна каля тыдню сухога сонечнага надвор‘я. Да таго-ж у лісьцях і наогул у больш далікатных частках расьліны маецца больш спажыўнай матэрыі, у прыватнасьці, вельмі карыснай для корму—бялковай матэрыі. Адсюль выцякаюць два галоўных правілы ўборкі сена:

1) Захоўваць лісьці па магчымасьці доўгі тэрмін „жывымі", каб праз іх вытваралася хутчэйшае выпароўваньне вільгаці з расьліны.

2) Пры варушэньні травы пры сушцы старацца не абламваць найбольш каштоўных, далікатных частак расьліны.

Калі ня трымацца гэтых правіл уборкі сена, дык можна яго і не дасушваць, а мець вельмі значную страту ўраджаю, якая часам даходзіць да 20—30% у добрае надвор‘е і нават да 50% пры сушцы ў даждлівае надвор‘е. Асабліва бываюць вялікія недаборы сена, канюшыны і вікі пры няправільнай уборцы. Пасьля 4—7-дзённай сушкі

пры бесьперапынным падварачваньні травы, усё лісьце і кветкі асыпаюцца і застаюцца толькі сьцяблы, кармовая каштоўнасьць якіх меншая, чым лісьцяў і інш. далікатных частак траў. Выходзіць так, што затрачана шмат працы, але ад яе атрымліваецца замест карысьці шкода ў гаспадаркі.

Пры правільнай уборцы сенажаці ў добрую пагоду неабходна рабіць так, скошаная касаркай трава павінна заставацца дзень-два (у залежнасьці ад густаты травы) на месцы, без паварачваньня, пакуль не завяне лісьце. У гэты тэрмін трава ўжо страціць да 50 проц. сваёй вільгаці. Далей трава зграбаецца ў невялікія рыхлыя валы, дзе сохне яшчэ дзень-два. Калі трава сушыцца на нізкіх вільготных лугох, валы трэба адзін-два разы паварачваць на другі бок, але зусім лёгка, бяз моцнага варушэньня граблямі, або віламі, каб не абламаць ужо падсохнуўшых лісьцяў. Лепш аднак гэтага паварачваньня не рабіць, а складваць недасохшае сена ў невялікія копкі і ўжо ў іх дасушваць сена канчаткова.

Пры густой траве, валы заўсёды неабходна згортваць на дзень-два ў невялікія копкі, дзе сыраватае сена крыху награецца (ад бушаваньня) і расьліны, якія засталіся да гэтага часу „жывымі“, канчаткова „заміраюць“.



Уборка канюшыны ў камуне імя 12 зьезду КП(б)Б.

Разгарнуўшы потым такую капу на час-два аб поўдні, ў добрую пагоду, канчаткова дасушваюць сена бяз усякага варушэньня. Пры скашваньні травы косамі апісаны вышэй спосаб сушкі застаецца цалкам, толькі зараз-жа пасьля кашэньня неабходна пракосы разьбіць тонкім слоем граблямі або віламі (канюшыну, віку). Як бачым, пры правільным спосабе прыборкі сена абходзіцца амаль што бяз усялякага варушэньня, або пераварачваньня травы, чым і дасягаецца захоўваньне ў сене больш далікатных і больш каштоўных частак расьліны. Пры гэтым атрымліваецца араматычнае (з прыемнымі пахамі) сена, бяз прыметных страт спажыўнай матэрыі ў ім.

У дрэннае дажджлівае надвор'е паказаны спосаб сушкі ня прыгодзен. У гэтым выпадку можна раіць сушку ў „бабках“. Тут трэба скошаную і прыбітую траву ўзьняць ад зямлі граблямі або віламі, выкарыстаўшы для гэтага момант, калі дажджы спыняцца. Калі трава зьверху абсохне, яе зьбіраюць у невялічкія „бабкі“ або снапы. Бабкі або снапы павінны быць такой формы, каб з іх хутка сьцякала вада. Так сена застаецца да поўнай прасушкі, калі яго можна звазіць у гумно, або кідаць ў стагі. Бабкі трэба час-ад-часу перастаўляць, каб пад імі трава не зацянялася і не прападала. Сушка ў бабках

марудней і патрабуе шмат працы. Яна можа ўжывацца на тых сенажацях, дзе высокі травастой.

Лепшы спосаб сушкі травы ў дрэннае надвор'е—будзе сушка на пірамідах, шатрах і загарадках. Сутнасьць гэтага спосабу заключаецца ў тым, што трава навешваецца на ўказаныя прылады, дзе яна можа вісець досыць доўгі час, ня трацячы прыметна сваёй кармовай якасьці. Навешваць траву трэба, аднак, у той час, калі яна ня мокрая ад дажджу, бо інакш можа сапсавацца ўвесь ураджай. Трэба зрабіць гэта ў час пагоды, або ў перапынку паміж перападаючымі дажджамі.



Навешваць трэба так, каб хутка магла сьцякаць вада. Гэты спосаб павінен шырока ўжывацца на Беларусі, асабліва ў тых мясцовасьцях, дзе многа лясоў. Усе памянёныя вышэй тыпы „вешалак" па канструкцыі простыя і на пабудову іх ідзе розны небудаўнічы матар'ял. Апісаны спосаб цікавы і тым, што ён мала патрабуе рабочых рук.

Асабліва прыгодзен гэты спосаб для сушкі канюшыны і вікі. Апошнія травы, як вядома, сохнуць вельмі марудна і ў дрэннае надвор'е псуюцца настолькі, што на больш рацыянальную сушку гэтых траў трэба зьвярнуць вялікую ўвагу, не шкадуючы нават сродкаў для пабудовы памянёных вышэй прылад.



Карыстаюцца і такім спосабам сушкі травы ў непагоду: скошаную траву падсушваюць да тэй пары, пакуль яна прыкметна завяне і пачне даваць характэрны пах сена; потым зграбаюць і складваюць у высокія стагі такой велічыны, каб мець па 5—6 вазоў сена з кожнага. Калі складаюць такія стагі, дык імкнуцца каб як мага лепш утаптаць траву, інакш кажучы, па магчымасьці больш выціснуць са стогу паветра, інакш трава хутка загнівае і прападзе ўвесь ураджай. У такіх стагох ад бушаваньня і дыханьня яшчэ „жывых" расьлін, на другі дзень трава прыкметна награецца, чым дасягаецца вельмі хуткая сушка травы.

Раніцою, або пад вечар над такімі стагамі відаць шмат выдзяляючайся пары. Аднак праз некаторы час тэмпэратура зьніжаецца, пара перастае выдзяляцца, трава ўжо высыхае, а стог памяншаецца амаль што ў два разы (зьбягаецца). Гэты спосаб падчас можа быць вельмі карысным, асабліва пры ўборцы лугавых траў, калі дажджы не даюць магчымасьці вытварыць нармальную сушку. Сена атрымліваецца



бурага цьвету, са значнымі стратамі спажыўнай матэрыі, але жывёлай паядаецца ахвотна.

Урэшце, калі надвор'е настолькі дрэннае, што нельга практыкаваць ніводнага з памянёных спосабаў сушкі травы на сена, дык трэба зусім адмовіцца ад сушкі і рабіць сіласаваны корм.

**В. Сьвіршчэўскі.**

---



Касьба вікі ў калгасе „Эрштэр Май"

# МЭЛІАРАЦЫЯ

## Мэліарацыя на Аршаншчыне

За мінулы год у Аршанскай акрузе праведзена на плошчы 6.399 *га* павярхоўная асушка балот і на 1.582 *га* грунтоўная. Разам гэта складае каля 11 проц. усяе плошчы балот сельскагаспадарчага прызначаньня.

За час з 1924 г. па 1929 г. было затрачана на ўсе гідратэхнічныя работы па акрузе 563.671 руб., з якіх па лініі дзяржбюджэту 298.613 р., альбо 53 проц. і па лініі мэліорацыйных таварыстваў 265.058 руб. ці 47 проц., у тым ліку пазычковага крэдыту 104.867 руб. ці 39 проц. усіх затрат на работы арганізаванага ў мэліорацыйныя таварыствы і калгасы насельніцтва; было за апошні час значнае ўкладаньне сродкаў і працы самага насельніцтва, выразіўшаеся ў 68 проц. ад агульнае колькасьці ўсіх работ (супроць норм Дзяржпляну).

Мэліорацыйныя работы ў Аршанскай акрузе з кожным годам пашыраюцца. Асабліва значна пашырыліся ў апошні год, што падкрэсьліваецца наступнымі лічбовымі паказчыкамі грашовых укладаньняў: 1924—26 г. г. дзяржаўных—80.145 руб., насельніцтвам, арганізаваным у мэліорацыйныя таварыствы і калгасы—20.470 руб., 1927 г.—дзяржаўнага крэдыту 64.684 руб. і насельніцтва—20.162 руб., 1928 г. дзяржкрэдыту—87.118 руб. і насельніцтва—42.260 руб., 1929 г. дзяржаўных і крэдытных сродкаў 171.433 руб. і сродкаў самаго насельніцтва—77.299 руб.

Такі рост укладаньняў сродкаў і працы на мэліорацыйныя работы каапэраваным насельніцтвам атрымаўся толькі дзякуючы таму, што навокал мэліорацыйных работ была згуртавана пэўная ўвага бядняцка-серадняцкіх мас і дзякуючы добраму гаспадарчаму эфэкту, які атрымаўся ад пасеву на раней мэліораваных землях. Гэта падкрэсьліваецца наступнымі паказальнікамі ўраджаю: адзін *га* балота да мэліорацыі даваў 30—40 пудоў сена, а пасьля мэліорацыі 200—280 пуд., пры засеве збожжавых культур (авёс) на балотах ураджай 90—120 пудоў.

У мінулым сэзоне пры правядзеньні мэліорацыйных работ быў цэлы шэраг перабояў у рабоце па прычыне дрэннага забясьпечаньня рабочых прадуктамі харчаваньня і недастаткова ўважлівых адносін да выкананьня пляну мэліорацыйных работ з боку як райвыканкомаў, а таксама сельсаветаў і каапэрацыйных арганізацый.

Гэтым летам будзе зроблена: рэгуліроўка ракі Аршыцы, асушка Сенькаўскага балота, падрыхтоўка калёнізацыйнага фонду на масыву „Абурубу-Чысьцік“ і лугфонду на р. „Усьвіж-Бук“, а таксама павярховае паляпшэньне лугоў на плошчы 23.000 *га*, што цалкам адпавядае пяцігадоваму пляну і стымулюе далейшае пашырэньне пасеўных плошчаў і рацыянальнаму скарыстаньню балотных абшараў: на гэтыя работы будзе выдаткавана 235.000 руб. (на дзяржаўныя работы) на мэліорацыйныя работы калгасаў і 12.453 руб. саўгасаў, з іх сродак крэдыты 70.000 руб.

У гэту вясну на мэліораваных у мінулыя гады балотах, засеяна калгасамі і саўгасамі зернавымі і тэхнічнымі культурамі 800 *га*, з іх канапель 200 *га*, а таксама будзе ўзворана на зіму для засеву будучага году 2.300 *га*.

**С. Ло—сеў.**

---

# Сацыялістычнае будаўніцтва на мэліараваных землях

Непраходныя балоты Палесься, якія не давалі амаль ніякай карысьці, улада БССР перарабляе на культурныя плошчы. Да гэтага часу сотні год жылі тут людзі ў надзвычайна неспагадлівых, суровых умовах. Зваліся гэтыя людзі паляшукамі. І вось, толькі паляшукі прызвычаіліся да жыцьця ў гэтых мясцовасьцях. Але як не прыстасоўваліся на працягу соцень год, жыцьцё было цяжкае. Ня лепш жылося і жывёле. Узімку карміліся яны асакой-разаком ды пушыцай, якія ўваходзяць усклад мясцовага сена. Улетку-ж дзе ў плаў, а дзе па чэрава ў дрыгве, здабывала жывёла па гэтых балотах сабе корм.



Рабочы калектыў, які выконвае пабудову ў паселішчы „Пагоннае".

Сена ўсё-ж было тут шмат, таму сяляне, у большасьці, вядома кулацтва, займалася адкормам бычкоў. Але не сваіх мясцовых, а куплялі украінскіх.

Здавалася-б, чаму не завесьці тут украінскую буйную рагатую жывёлу, каб ня купляць бычкоў для адкорму. Але гэтага зрабіць было нельга, бо толькі мясцовая жывёла была здольна карыстацца пасьвішчамі ў гэтых балотных мясцох. Завадзкая-ж на гэта ня здатна.

Аб палепшаньні жывёлы, і паасобнай, індывідуальнай гаспадаркі пры такім стане зямель ня было чаго і думаць. А між тым глебы тут багатыя, трэба толькі іх прывесьці ў культурны выгляд шляхам асушкі. Пасьля мэліарацыі тут можна будзе разьвіваць усе галіны гаспадаркі. У палявой гаспадарцы можна належным чынам пашырыць культуру тэхнічных культур, як каноплі і лён. У жывёлаводнай — лепшыя пароды. Ды і мясцовая парода, калі ёй даць лепшы корм і наогул лепшыя ўмовы, стане больш прадукцыйнай. Акрамя таго, яе можна будзе палепшыць скрыжаваньнем з больш малочнымі, або мяснымі пародамі.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі царскі ўрад аб мэліорацыі гэтых зямель не падбаў. Савецкая-ж улада, як толькі гаспадарча ўзмацнела, вырашылаператварыць балоты ў культурныя плошчы. Зроблены належныя вышуканьні і ў 1928 г. складзен праект на асушку 29 тысяч *га*:



Агульны выгляд пабудоў у паселішчы „Пагоннае“.

12 тысяч *га* прызначана пад саўгасы і 17 тысяч *га* пад калгасы. А па вышуканьням 1929 г. прызначана мэліараваць 100 тысяч *га*, на што ўжо складаецца праект. Пры гэтым у той самы саўгас будзе вылучана 30 тысяч *га*, а на рэшце плошчы будуць пабудаваны калгасы. У гэтых саўгасах і калгасах-волатах будзе ўжывацца мэханічная апрацоўка, што эканамічна выгадна.



Пабудова памяшканьняў для рабочых.

Пачатак пабудовы на мэліараваных землях Наркамзем БССР даручыў Брагінскаму Калфонду. Дзяржаўных сродкаў на гэта вылучана: беззваротных 671.205 руб. і зваротных 72.180 руб.

Калфондам вядзецца падрыхтоўчая праца па вярбоўцы працоўнае сілы і забясьпечаньні сродкамі вытворчасьці, харчаваньнем і г. д. Падрыхтоўваюцца: сталоўка, кухня, хлебапякарня, баня для рабочых, на якіх там ужо працуе 240 чалавек (пільшчыкі, цесьляры і інш). Для рабочых будуецца дом і часовае памяшканьне (барак), розныя майстэрні, як кузьня, стальмашня і інш.

**Карэняка.**

# Пабудова сілосных ям і траншэй

Практыка паказала, што сіласаваньне кармоў можна рабіць ня толькі ў складаных па канструкцыі і каштоўных сіласных устаноўках—вежах, але і ў звычайна простых ямах, або доўгіх ямах-траншэях. Справа ня ў тым, дзе сіласаваць, а ў тым, як падрыхтаваць тую або іншую сіласную ўстаноўку да сіласу і правільна зрабіць у яе загрузку зяляніны.

Ня гледзячы на вялікую featureразнастайнасьць сіласных пабудоў, кожная з іх, а ў тым ліку і яма або траншэя, павінны адпавядаць асноўным запатрабаваньням сіласаваньня. Кожная з іх павінна забясьпечыць правільны працэс разьвіцьця ў сіласе малочна-кіслага бушаваньня і затрымліваць іншыя, шкодныя для добрага сіласу, бушаваньні. Што-ж у асноўным патрабуецца ад сіласных пабудоў, каб яны адпавядалі свайму прызначэньню:

1) сьценкі сіласных пабудоў не павінны прапушчаць вады і паветра, чаму ў іх нельга дапускаць шчылін, інакш загружаная зяляніна не засіласуецца, а згніе;

2) яны павінны быць роўнымі і гладкімі з сярэдзіны. Трэба, каб пры загрузцы сіласу зяляніна лёгка асядала каля сьценак і шчыльна прылягала да іх, інакш, паміж сьценкамі і зялянінай будзе затрымлівацца паветра, ад чаго, як паказвае практыка сіласасаваньня, сілас псуецца больш за ўсё;

3) сіласная пабудова павінна быць досыць трывалай, моцнай і не прамярзаючай. Апошняе запатрабаваньне мае асаблівую значнасьць, бо ў прамярзаючай сіласнай пабудове нельга доўга захоўваць сіласу, што бывае нявыгадна для гаспадаркі. Справа ў тым, што адным з каштоўных бакоў сіласаваньня кармоў зьяўляецца тое, што яно дае магчымасьць заўсёды, ва ўсякі час году, у дастатковай колькасьці мець сакавіты корм, чаго, вядома, нельга дабіцца праз сіласаваньне, калі сілас прымярзае, бо як толькі сілас пачне таяць, разам з гэтым ён пачне і гніць, значыць, і застаўляць такі корм на доўга не магчыма;

4) і ўрэшце, сіласная пабудова павінна быць таннай, бо гэта адбіваецца на кошце кожнай тоны сіласу, а адсюль і на каштоўнасьці прадуктаў жывёлагадоўлі. Таму трэба імкнуцца да максымальнага зьніжэньня сабекошту сіласнага корму як шляхам патаненьня самой пабудовы, так і шляхам лепшага абсталяваньня, большай мэханізацыі пабудовы.

Вось прыкладна тыя запатрабаваньні, якія неабходна прад'яўляць да кожнай сіласнай пабудовы.

Сіласаваньне корму гэта амаль што тое самае, што і квашаньне капусты, толькі квашаньне капусты робіцца звычайна ў дзежках, бочках, а для сіласаваньня корму робяць сілосную яму з непранікальнымі сьценкамі і дном, інакш кажучы, вялікую дзежку. Калі сіласуецца шмат корму, дык яма робіцца ня круглая, а прадаўгаватая, альбо траншэя. Дэталі пабудовы сілосных ям і траншэй залежаць ад таго грунту, у якім яны капаюцца: чым грунт мацней і больш непранікальны для вады і паветра, тым менш зьвяртаецца ўвага на ўзмацненьне сьценак і іх абліцоўку і, наадварот, пры слабых пясчаных грунтох, моцная і грунтоўная абліцоўка зусім неабходна. Але-ж трэба прыняць як правіла, што кожная яма, або траншэя павінна быць абліцована, бо гэта дае больш упэўненасьці, што сілас будзе ўдалы.

**Як выбіраць месца для ямы і траншэі.** Ямы і траншэі трэба капаць на ўзгорках, бугарках, падвышаных мясцох, каб не магла ў іх

зацякаць дажджавая або вясеньняя вада. Для адводу павярхоўных вод, навокал кожчай сілоснай установкі неабходна пракапаць канаву так, як гэта паказана на прыведзеных ніжэй чарцяжох.

Трэба выбіраць такія месцы, каб грунтовыя воды стаялі па магчымасьці ніжэй, бо ад гэтага залежыць глыбіня ямы або траншэі. Дно сілосных ям павінна быць ня менш на 0,5 мэтра вышэй, веснавых грунтавых вод, інакш вада зацякае ў сілас і корм будзе сапсаваны.




Яма і траншэя павінна быць магчыма бліжэй да хлева. Чым бліжэй яма да хлева, тым лягчэй дастаўляць з яе корм жывёле.

**Якіх разьмераў рабіць яму або траншэю.** Усякаму вядома, што ў шырокім і нізкім перарэзку, або ў карыце добрай капусты ня сквасіш: яе шмат заплесьнее і па якасьці яна будзе дрэннай. Таксама і з сілосам—ён будзе лепшым у тых ямах, або траншэях, дзе шырыня менш глыбіні і ва ўсякім разе ня больш глыбіні. Немэтазгодна рабіць яму менш 2-х мэтраў шырыні і такой-жа глыбіні (прыкладна па 3 тоны

сіласнай масы), бо ў малых ямах сілас будзе няўдалым. Пажадана, каб глыбіня ямы або траншэі была нават ня менш 3-х мэтраў[1]). Калі блізкасьць грунтовых вод не дазваляе капаць глыбокіх ям або траншэй, дык неабходна даць такой яме добрую абліцоўку і вывесьці абліцоўку зьверх паверхні зямлі з тым, каб усё-ж такі атрымаць больш вузкую і глыбокую яму для сіласаваньня. Немэтазгодна капаць і надта глыбокую яму, напр., звыш 5 мэтраў, бо гэта ўдаражае пабудову і моцна перашкаджае даставаць з яе корм.

Такім чынам, найбольш пажаданымі разьмерамі ямы трэба лічыць шырыню 3—4 мэтры і глыбіню ад 3-х да 4,5 мэтраў. Траншэя па глыбіні і шырыні мае тыя-ж самыя разьмеры, а па даўжыні залежыць ад колькасьці той сыравіны, якую трэба засіласаваць. Але-ж лічыцца, што траншэя не павінна быць даўжэй, чым 30 мэтраў.

Для разьлікаў, якіх разьмераў павінна быць яма, або траншэя, трэба мець на ўвазе, што адзін мэтр сіласу важыць каля 0,6—0,7 тоны.

Напрыклад, калгас мае 50 кароў. Па ўмовах гаспадаркі сіласам прыдзецца карміць кароў ня менш 200 дзён. У сярэднім на галаву ў дзень прадбачыцца страўліваць каля 15 клгр. сіласу: значыць усяго патрабуецца сіласу 150.000 клгр., або 150 тон. Для падрыхтоўкі такой колькасьці сіласу патрабуецца сіласная ўстаноўка ёмкасьцю ў 300 куб. мэтраў, калі ўлічваць асяданьне засіласаванай масы. Гэта будзе траншэя прыкладна такіх разьмераў: 3 мэтр. шырыні, 4 мэтр. глыбіні і 25 мэтр. даўжыні ($3 \times 25 - 4 = 300$ куб. мэтраў). Замест траншэі патрэбна было-б выкапаць 5 ям разьмеру 3 мэтры шырыні і 4,5 глыбіні.

Ніжэй мы дадаем табліцу, якая паказвае, якой ёмістасьці павінна быць сіласная ўстаноўка, каб забясьпечыць сіласам тую ці іншую колькасьць жывёлы (кароў або сьвіней), пры дачы сіласу карове ў суткі 15 клгр., сьвіньням у суткі—3 клгр. У табліцы прадугледжан і розны працяг кармленьня сіласам.

| № № | Назва пабудовы | Шырыня (у мэтр.) | Глыбіня (у мэтр.) | Даўжыня (у мэтр.) | Ёмістасьць у куб. мэтр. | Будзе сіласнай масы (у тон.) | Забясьпечвае сіласам: Якую жывёлу | Колькасьць жывёлы пры кармленьні (у штуках): 150 дзён у год | 180 дзён у год | 200 дзён у год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | а | б | в | г | д | е | ж | з | і | к |
| 1 | Яма | 2 | 3 | — | 9,42 | 4,71 | Кароў<br>Сьвіней | 2<br>10 | 1—2<br>9 | 1—2<br>8 |
| 2 | „ | 3 | 3 | — | 21 | 10,5 | Кароў<br>Сьвіней | 4—5<br>23 | 4<br>20 | 3—4<br>17 |
| 3 | „ | 3 | 4 | — | 28 | 14 | Кароў<br>Сьвіней | 6<br>30 | 5<br>25 | 4—5<br>23 |

[1]) І. М. Серада ў артыкуле „Як калгасам і саўгасам прыгатаваць сілас у яме траншэі“ (час. Шляхі колектывізацыі № 7) прапануе выкапваць траншэю ня глыбей 3 мэтраў, з тым меркаваньнем, што пры гэтым менш небясьпекі дастаць грунтовае вады і з яе лягчэй даставаць сілас.

*Рэдакцыя.*

| № № | Назва пабудовы | Шырыня (у мэтр.) | Глыбіня (у мэтр.) | Даўжыня (у мэтр.) | Ёмістасьць (у куб. мэтр.) | Будзе сіласнай масы (у тон.) | Забясьпечвае сіласам: Якую жывёлу | Колькасьць жывёлы пры кармленьні (у штуках): 150 дзён у год | 180 дзён у год | 200 дзён у год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | „ | 4 | 4 | — | 50 | 25 | Кароў<br>Сьвіней | 11<br>55 | 9<br>45 | 8<br>40 |
| 5 | „ | 4 | 4,5 | — | 56,5 | 28,25 | Кароў<br>Сьвіней | 12<br>60 | 10<br>50 | 9<br>45 |
| 6 | траншэя | 3 | 4 | 10 | 120 | 60 | Кароў<br>Сьвіней | 26<br>130 | 22<br>110 | 20<br>100 |
| 7 | „ | 3 | 4 | 15 | 180 | 90 | Кароў<br>Сьвіней | 40<br>200 | 33<br>165 | 30<br>150 |
| 8 | „ | 3 | 4 | 20 | 240 | 120 | Кароў<br>Сьвіней | 53<br>265 | 44<br>220 | 40<br>200 |
| 9 | „ | 3 | 4 | 25 | 300 | 150 | Кароў<br>Сьвіней | 66<br>330 | 55<br>275 | 50<br>250 |
| 10 | „ | 3 | 4 | 30 | 360 | 180 | Кароў<br>Сьвіней | 80<br>400 | 66<br>330 | 60<br>300 |

Напрыклад, трэба ведаць, якой велічыні трэба пабудаваць яму або траншэю, каб забясьпечыць 52 каровы на працягу 180 дзён, прымаючы сярэднюю дачу сіласу 15 клгр. у суткі на галаву. У радку 9 графы 1 табліцы вызначаецца, што на 55 кароў на 180 дзён патрэбна 150 тон сіласу, які зьмяшчаецца ў траншэі разьмерам 3 × 4 × 25 мэтраў. Тую-ж прыкладна колькасьць кароў могуць абслугоўваць і 6 ям разьмерам 4 × 4, якія ўмяшчаюць таксама 150 тон сіласу (глядзі радок 4 гр. 1). І ўрэшце, замест памянёнай траншэі або 6 ям, можна пабудаваць 10 ям разьмеру 3 × 4 (гл. радок 3, гр. 1), якія таксама абслужаць каля 50 кароў.

Пры падліку патрэбнага сіласу для рознага віду с.-г. жывёлы трэба выходзіць прыкладна з такіх норм; на карову трэба класьці па 15—20 *кгр* у суткі, на каня ў 3—4 разы менш, на сьвіньню і авечку ў 5—6 разоў менш, чым на карову.

### Як выкапаць яму або траншэю

Пасьля таго, як вызначаны памер сіласн. устаноўкі, выбрана месца і высьветлен грунт, пачынаюць будаваць яе. Галоўнымі інструмэнтамі вядома, будзе звычайная лапата і лом, калі грунт надта цьвёрды. Для выкапкі траншэі магчыма карыстацца яшчэ і коннай лапатай, асабліва ў тым выпадку, калі грунт слабы і капаецца траншэя з уездам (гл. мал. 6, 7, 8, 9). Калі капаць яму, дык у сярэдзіне абранага месца ўбіваецца калочак, кругом якога рэйкай або вяроўкай абводзяць межы будучай ямы. Межы траншэі намячаюць калочкамі. Пры выкапцы ямы ў цьвёрдым грунце, калі спэцыяльнай абліцоўкі сьцен рабіць не патрэбна, трэба сачыць каб сьцены яе былі адвесныя, без западзін, ям і інш. Але ня будзе шкоды, калі сьцены будуць крыху з нахілам

к дну ямы (вузей унізе), наадварот, практыка паказвае, што тут сіласная маса пры асяданьні больш шчыльна прылягае да сьценак і тым не прапускае паветра ў сілас, што для сіласаваньня вельмі важная рэч. Зямля з ямы да невялікай глыбіні (да 2-х мэтраў) выкідаецца непасрэдна на бераг ямы, а пры большай глыбіні выносіцца кашамі, вёдрамі, кадкамі і інш. Тут для большага посьпеху работы можна прыстасаваць зусім простую машынізацыю, якая даступна кожнаму калгасу, або паселішчу: можна паставіць журавель або іншае простае прыстасаваньне. Пасьля сканчэньня выкапкі ямы, як-бы ня быў цьвёрды і непрапускаючы вады і паветра грунт, трэба ўсё-ж абмазаць сьценкі жырнай глінай, а на дно трэба пакласьці пласт добра перамешанай гліны 25—30 *см* таўшчынёю (глядзі мал. 1 і 6).

Так будуецца яма ў цьвёрдым непранікальным грунце. Трэба ўсё-ж заўважыць, што такія простыя ямы без спэцыяльнай абліцоўкі ня зусім надзейны для сіласаваньня корму: бо ў іх сілас вельмі часта псуецца. Таму, калі ёсьць магчымасьць, трэба заўсёды вылажыць сьценкі ямы або траншэі, прымяняючы, нават, як асноўны матар'ял звычайную жырную гліну, дрэва, хмызьняк, чарот, камень, цэглу сырэц, саман, цэглу паленую і інш. (гл. малюнкі ніжэй).

Такія сіласныя ўстаноўкі, бязумоўна, будуць лепш прыстасаваны для сіласаваньня корму: яны захоўваюць сілас ад засьмечаньня зямлёю, ад пацукоў, вады, а разам з тым і маюць упор для пабудовы над імі страхі, што таксама патрэбна для сіласн. устан.

Ямы або траншэі, якія прадбачыцца выкладваць тым ці іншым матар'ялам, капаюцца некалькі інакш. Перш за ўсё, яны пачынаюцца ўверсе шырэй на 1,5—2 мэтры, чым гэта патрэбна па разьліку, а ка дну ўсё звужваюцца. Пасьля таго, калі капаньне скончана, пачынаецца выкладка сьценак. Сьценкі выводзяцца паступова, з пастаяннай забіўкай добра разьмешанай глінай, прагалін між земляной сьцяною ямы і кладкай (абліцоўкай).

Трэба заўсёды праверыць разьмер сіласьні, а пры забіўцы гліны неабходна ўстаўляць точна вымераныя распоркі, трэба сачыць таксама і за правільнасьцю выкладаемых сьценак. Сьценкі сіласьні выводзяцца звычайна на паўмэтра вышэй паверхні зямлі. На дно сіласьні набіваецца пласт жырнай гліны таўшчынёй таксама 25—30 *см* і моцна ўтрамбоўваецца. Вуглы траншэі закругляюцца.

*Плятнёвыя сьценкі* будуюцца так: каля сьцен ямы або траншэі набіваюцца калы таўшчынёю да 10 *см*; даўжынёю ў залежнасьці ад глыбіні сіласьні. Калі сьценкі будуць з хмызьняку, калы набіваюцца праз кожныя 35—40 *см.*, а для сьценак з чароту і таго часьцей (праз 25—30 *см*). Выступаючае з ямы жэрдзьдзе прывязваюць (лазою) к калочкам, добра загнаным у зямлю наводдаль ад берагу ямы. У доўгіх траншэях акрамя калоў праз кожныя 2 мэтры забіваюцца моцныя стаўбы для таго, каб яма не абвалілася, а яшчэ лепш, калі ўдоўж на стаўбах пабудаваць невялікі зруб (бервяны ў 2—3). Гэта асабліва пажадана ў тых выпадках, калі грунт вельмі слабы, пясчаны. Пабудаваны пляцень абмазваецца (атынкоўваецца) глінай з саламянай сечкай, а потым заціраецца жыдкай глінай. Для пабудовы ямы ў 30 к. *м* патрэбна гліны—33 куб. мэт., пяску 0,86 куб. мэт., хмызьняку—1,72 куб. мэтраў, жэрдзьдзя 125 пагонных мэтраў. Для пабудовы траншэі ў 360 куб. мэтр. патрэбна матар'ялу: гліны 202 куб. *м*, пяску 5,5 куб. *м*, хмызьняку—11,70 куб. *м*, жэрдзьдзя—4,3 куб. *м* (глядзі мал. 2 і 7).


Сіласная яма еміст 30 куб. метр
без абліцоўкі прышыльна слежаўшым-
ся грунце № 1
Папярочный разрез.
Зямля - ½ m
Гліна ¼ m
Салома ¼ m
Зацірка па верху стен
Гліна або сугліная.
3 m
Узровень грунтовай вады
Сіласная яма емістасцью 30 куб. метр
з плянцонева адежай № 2
Зямля ½ m.
Гліна ¼ m.
Салома ¼ m.
Гліна
Абмазка
Гліна
3.00
0.25
Узровень грунтовай вады.
План

## СІЛАСНАЯ ТРАНШЭЯ З АБЛІЦОЎКАЙ З САМАННАЕ ЦЭГЛЫ ПРЫ СЛАБЫМ І СЯРЭДНІМ ГРУНЦЕ.

ПАПЯРЭЧНЫ РАЗРЭЗ.




РАЗРЭЗ У ДОЎЖ.




ПЛЯН.



Сіласнаяяма емістасцю 30 куб метр
з цагельнай адежай улап. цагліны

№5

Папярочны разрез




План



СІЛАСНАЯ ТРАНШЭЯ З АБЛІЦОЎКАЙ З БУТА ПРЫ СЛАБЫМ І СЯРЭДНІМ ГРУНЦЕ.



## СИЛАСНАЯ ТРАНШЭЯ З ПЛЕЦЯНОЙ АДЕЖДАЙ ПРЫ ГРУНТАХ СЯРЭДНЯЙ ШЧЫЛЬНАСЬЦІ

ПАПЯРОЧНЫ РАЗРЭЗ.




РАЗРЭЗ УДОЎЖ







ПЛЯН.

СІЛАСНАЯ ТРАНШЭЯ БЕЗ АБЛІЦОЎКІ ПРЫ ШЧЫЛЬНА ЗЬЛЕЖЫМСЯ ГЛІНІСТЫМ ЦІ СУГЛІНІСТЫМ ГРУНЦЕ.



*Бутавыя сьцены* лічацца добрымі, асабліва калі кладка па цэманту, але можна з посьпехам вытвараць кладку і на гліне. У асноўным пры пабудове гэтай сьценкі трэба трымацца тых-жа важнейшых правіл, якія былі паказаны пры пабудове пляцянёвай сіласьні. Дэталі пабудовы можна бачыць на малюнках № 3 і 8. Па сканчэньні кладкі сьценкі замазваюцца жырнай глінай. Таўшчыня сьцен каля 0,3—0,4 мэтры.

Для пабудовы бутавай ямы ў 30 куб. *м* патрэбна—каменьня 13 куб. *м*, шчэбню—1,6 куб. *м*, гліны—36,4 куб. *м*, пяску 2,6 куб. *м*; для траншэі ў 360 куб. *м*—каменьня 103 к. *м*, шчэбню 13 к. *м*, гліны 131 к. *м*, пяску 40 к. *м*, цэманту 5 тон, вапны—2 тоны.

*Саманная сьценка* ў сіласьнях робіцца таўшчынёю ў $^1/_2$ мэтры. Саман бярэцца такіх разьмераў $^1/_2 \times ^1/_4 \times ^1/_3$. Саманная сіласьня паказана на малюнку № 4 і 9. Унутраны бок абмазваецца глінай. Для пабудовы саманнай ямы (30 куб. мэтр.) неабходна гліны—51 к. *м*, пяску 1,8 к. *м*. Для траншэі ў 360 куб. мэтр.—гліны—302,5 куб. мэтр., пяску—7,6 куб. мэтр., саламянай рэзкі 150 клгр.

*Цэгляныя сьценкі* ў сіласьні робяцца таўшчынёю ў $^1/_4$ мэтра. (гл. мал. № 5). Кладка робіцца на вапенным растворы або гліне (ямы). Унутраны бок сьцяны абмазваецца жырнай глінай (або цэмэнтам), і гладка зьціраецца. На будаўніцтва цаглянай траншэі (360 куб. мэтр.) патрэбна: цэглы—40.000 шт., цэманту—3,4 тоны, вапны—1,3 тоны, гліны—181,5 к. *м*, пяску 25 к. *м*; ямы (30 к. *м*)—цэглы—2264 шт., гліны—34,6 к. *м*, пяску 1 к. *м*. Найбольш проста і найбольш танна, вядома, пабудова простых ям або траншэй, без усялякай абліцоўкі. Напрыклад, простая траншэя (360 к. *м*) каштуе толькі каля 600 руб., тады як цэгляная траншэя каштуе да 4000 руб. Бязумоўна, розьніца занадта вялікая (у 6—7 разоў), але трэба лічыцца і з тым, што добры сілас будзе ў добра абсталяванай сіласьні. Простыя сіласьні зусім бяз абліцоўкі, або з плецянёвай ці іншай таннай абліцоўкай па сутнасьці павінны быць часовымі, пераходнага тыпу да больш сталых сіласных пабудоў. Пабудаваная раз, такая яма або траншэя, пры ўдалым сіласаваньні праз 2—3 гады дасьць такі прыбытак у гаспадарцы, што знойдуцца потым сродкі на пабудову больш каштоўнай і добра абсталяванай сіласнай ямы, траншэі, ці, нават вежы. У глебавых умовах Беларусі, бадай што лепшымі простымі сіласнымі пабудовамі будуць траншэі. Па-першае, яны могуць быць досыць ёмкімі пры нязначнай глыбіні, а па-другое, яны каштуюць адносна танней, чым ямы.

Пераважнасьць траншэй яшчэ і ў тым, што загрузка і выгрузка тут больш простая, лепш можна зрабіць і ўтрамбоўку закладваемай сіласнай масы. Звычайна кожная траншэя мае з аднаго боку ўезд (глядзі мал. № 6, 7, 8, 9), праз які загружваецца і выгружваецца сілас. Тут можна таксама шырока прымяніць для трамбоўкі сіласнай масы конную сілу. Трэба толькі ўздоўж самой траншэі і ўезду пабудаваць стрэху, бо інакш у дождж у сіласьню будзе зацякаць вада. Уезд неабходна замасьціць каменьнем, ці дрэвам, інакш ён будзе растаптвацца і загразьняцца.

Пры пабудове простых сіласных установак высокакваліфікаваная праца амаль што не патрэбна: рабочыя рукі могуць даць самі зацікаўленыя гаспадаркі. Трэба толькі больш сьвядомыя асобы—інструктары ў справе будаўніцтва. Тут будуць вельмі карысны такія майстры, як калодзежнікі, атынкоўшчыкі і пячнікі.

У калгасах, або прасьцейшых каапэрацыйных аб'яднаньнях ці асобных вёсках трэба абраць адказнага працаўніка, пад кіраўніцтвам якога

**З бутавай абліцоўкай пры слабых і сярэдніх грунтах.**




можа быць пабудавана яма ці траншэя, зусім прыгодная для падрыхтоўкі сіласу.

Удзел комсамольскага актыву і ўсёй вясковай моладзі ў гэтай справе павінна быць вельмі значным. Моладзь павінна ўзяць на сябе справу сіласнага будаўніцтва па калгасах і паселішчах, яна павінна разбурыць дзедаўскія погляды на жывёлагадоўлю і праз разгортваньне справы сіласаваньня стварыць моцную кармовую базу для разьвіцьця прамысловай жывёлагадоўлі. Кожны камсамолец, а з імі і кожны селянін павінен упэўніцца, што сіласаваньне кармоў ёсьць рэвалюцыя ў нашай жывёлагадоўлі.

**Сьвіршчэўскі.**

# Арганізавана агледзім выстаўку

Першая Ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці адчыніцца ў пачатку жніўня 1930 г. Выстаўка пабудавана для таго, каб працоўныя масы, аглядзеўшы яе, вучыліся гаспадарчаму і культурнаму будаўніцтву, каб увесь вопыт, вынесены з выстаўкі быў перанесены працоўнымі ў калгасы і саўгасы, і на прадпрыемствы для хутчэйшай пабудовы сацыялізму.

Каб прапусьціць праз выстаўку найбольш экскурсантаў, неабходна аглядаць яе арганізаваным парадкам. З акруг прыедуць экскурсанты згодна разьвёрсткі па кожнаму раёну, прыедуць і неарганізаваныя, прычым ня ўсе экскурсанты прыбудуць у адзін прыём, а па групах, бо выстаўка працягнецца 2 месяцы (з 10-VIII па 10-X-30 г.). На агляд выстаўку вызначана для кожнай групы 3 дні, таму неабходна аглядаць выстаўку ў строгім парадку, каб як найлепш скарыстаць вызначаны час. Ніжэй прыводзіцца прыкладны маршрут агляду выстаўкі.



Галоўны павільён



Павільён каапэрацыі.

1. Уваходная брама.
2. Пляц і монумэнт Леніна.
3. Павільён рэспубліканскае прамысловасьці.
4. Павільён Дзяржбуду.
5. „ Лесбелу.
6. „ саматужнай і мясцовай прамысловасьці.
7. Галоўны павільён.
8. Пасевы калекцыйнна-насеннага гадавальніка.
9. Пасевы інтрадукцыі (расьліны, якія акліматызуюцца ў нашых умовах).
10. Мульчыраваньне (глеба пакрытая толем, праз дзірачкі якога растуць розныя каштоўныя культуры).
11. Вэгэтацыйны домік.
12. Павільён масавых экспонатаў ральніцтва.
13. Павільён земляробства.
14. Геобатанічная карта.
15. Севазвароты.
16. Дзялянкі з яравымі культурамі на прэснай глебе са штучным угнаеньнем.
17. Новыя культуры.
18. Дэндросэктар.

19. Гародныя культуры.
20. Ягадныя культуры.
21. Павільён садоўніцтва і гародніцтва.
22. Лекавыя расьліны Магілеўскай дасьледчай станцыі.
23. Павільён тэхпераапрацоўкі садавіны і гародніны.
24. Агнятрывалы будынак, з П/аддзелам агнятрывалага будаўніцтва.
25. Сад і садовыя севазвароты.
26. Пчэльнік і мёданосныя расьліны.
27. Пладовы гадавальнік.
28. Пасевы станцыі аховы расьлін.
29. Павільён тэхкультур (лён, каноплі).
30. Пасевы лёну і канапель.
31. Пасадка морвы (расьліна, якая замяняе тутавае дрэва для выкармкі шаўкавічных чарвей).
32. Пасевы аддзелу мэханізацыі і электрыфікацыі сельскае гаспадаркі для дэманстрацыі розных машын у працы.
33. Павільён і павець з машынамі і прыладамі аддзелу мэханізацыі і электрыфікацыі сельскае гаспадаркі.
34. Мэтэоролёгічная станцыя.
35. Павільён для коняй № 1.
36. Павільён для коняй № 2.
37. „ „ буйнай рагатай жывёлы № 1.
38. Павільён для буйнай рагатай жывёлы № 2.
39. Павільён для буйнай рагатай жывёлы № 3 з мэханічнай дойкай кароў, аўтоматычнымі паілкамі, падвеснымі шляхамі для дастаўкі корму і вывазкі гною, сілосная вежа і траншэя пры ім.
40. Гноясхоў і жыжапрыёмнік.
41. Кузьня.
42. Пасевы па кормаздабываньню.
43. Дацкі сьвінарнік.
44. Павільён для сьвіней.
45. „ „ авец і коз.
46. „ „ трусоў.
47. „ „ інкубатараў.
48. Комбікормачнае аддзяленьне.
49. Павільён масла-завод.
50. „ для птушак.
51. „ для няжывых экспонатаў аддзелу жывёлагадоўлі.
52. Пляц для вывадкі жывёлы.
53. Павільён МОПР'у.
54. Павільён Белмэдгандлю.
55. Павільён Чырвонага Крыжу.
56. Павільён фото-лябораторыя.
57. Фонтан.
58. Павільён камунальнае гаспадаркі і шляхоў зносін.
59. Павільён працы і быту.
60. Павільён экспорту, імпорту і гандлю.
61. Павільён коопэрацыі.
62. Павільён друку.
63. Сонечны гадзіньнік і каляндар з кветак.
64. Павільён сувязі.
65. Лясны павільён і розныя дзікія зьвяры п/аддзелу паляўніцтва.
66. Рыбны павільён і рыбаводная гаспадарка.
67. Бульбяная станцыя.
68. Сьвінаводная станцыя.
69. Паляводная сельска-гаспадарчая станцыя.
70. Павільён мэліарацыі, торфу і культуры балот.
71. Балотная станцыя.
72. Культура мохавага балота.

Кожны павільён запоўнены адпаведнымі экспонатамі.

Прачытаўшы маршрут, чытач сам ужо бачыць, што дзе трэба аглядаць на выстаўцы і сьцісла пазнаёміцца, такім чынам, са зьместам выстаўкі.

У розных мясцох тэрыторыі пабудаваны дзьве сталоўкі: адна з прапускной здольнасьцю ў 1.800 чалавек, а другая ў 5.000 чалавек штодня. Акрамя гэтага на тэрыторыі пабудавана шмат кіоскаў для продажы розных вод, газэт, кніжак і г. д.

Пасярэдзіне тэрыторыі пабудавана вялікая вежа для прожэктараў, з якой будуць асьветлены ўсе пасевы і тэрыторыя выстаўкі залітым сьветам ноччу, каб можна было аглядаць выстаўку ўвечары, як і ў дзень.

**П. М. Сяргейчык.**

---

Адк. рэдактар **Рачыцкі**. Рэдакцыя—**рэдкалегія**.

